
Янка Карчэўскі ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


З малака раблю ўсё... ➔4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 03 (3323) Год LXV Беласток, 19 студзеня 2020 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Юбілейны фотаконкурс «Падляшша ў аб'ектыве»

**Да юбілейнага XV выпуску Агульнапольскага фатаграфічнага конкурсу імя Віктара Волкава «Падляшша ў аб'ектыве» прыступіла ажно 102 удзельнікі, якія даслалі каля 300 фатаграфій выкананых на Падляшшы. Падвядзенне вынікаў конкурсу і адкрыццё конкурснай выставы адбылося яшчэ ў снежні ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, які з'яўляецца арганізатарам фатаграфічнага мерапрыемства. Пры нагодзе юбілею былі ўспаміны, але сабраных перш за ўсё цікавілі ўзнагароджаныя фатаграфіі на конкурснай выставе, якая будзе працаваць да восені 2020 года.**

— На Агульнапольскі фатаграфічны конкурс «Падляшша ў аб'ектыве», якому пасля смерці Віктара Волкава было прысвоена яго імя, на працягу 15 гадоў паступіла каля трох тысяч здымкаў, што захоўваюцца ў нашым архіве. Ідэя конкурсу ўзнікла, калі я яшчэ жыў у Вроцлаве і рэалізавалася ад патрэбы сэрца, паколькі рашыліся мы паказваць роднае Падляшша. Большае колькасць удзельнікаў і павышаецца ўзровень дасланых фатаграфій. Часткі таго, што адлюстравана на фатаграфіях, ужо няма, паколькі мяняюцца краявід, прырода, архітэктура, паміраюць людзі. Конкурсныя выставы паказваецца не толькі ў нашым музеі, але прэзэнтаваліся ў Беларусі — у Гродне і Брэсце, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк.

Фотаконкурс «Падляшша ў аб'ектыве» адбываецца пад ганаровым патранатам Маршалка Падляшскага ваяводства і бургамістра горада Гайнаўка. Узнагароды і дыпломы пераможцам конкурсу ўручылі дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк і намеснік бургамістра Гайнаўкі Ірыней Кендысь. Звярнуў ён увагу на адлюстраваную на здымках прыгажосць Белавежскай пушчы і пушчанскага рэгіёна, яго разнароднасць і на прамоцыю Гайнаўкі і Гайнаўскага павета ў краіне і замежжы, паколькі ў конкурсе прымалі ўдзел таксама жыхары Рэспублікі Беларусь. На некаторых фатаграфіях можна было заўважыць стыль фатаграфавання Віктара Волкава, патрона белмузейнага конкурсу.

— У 2010 і 2011 гадах Віктар Волкаў быў членам журы конкурсу «Падляшша ў аб'ектыве». Члены журы, фатографы Бажэна Валенцік, Тамаш Класоўскі, Яраслаў Хыра і Міхал Косць добра ведалі Віктара Волкава. Ён іх таксама знаў і цаніў, — заявіла Агнешка Ціханюк з Гайнаўскага белмузея. Звярнула яна ўвагу, што актыўны ўдзел у конкурсе апрача гайнавян і жыхароў Гайнаўскага павета прымаюць фатографы Беластоцкага і Бельскага паветаў.

На XV Агульнапольскім фатаграфічным конкурсе імя Віктара Волкава «Падляшша ў аб'ектыве» першую ўзнагароду атрымаў Яраслаў Клей з Саколкі за здымак статка зуброў у Кнышынскай пушчы.

— Фатаграфію зрабіў я, калі статак зуброў збягаў з узгорка ў даліну. Тады ў паветра ўзняўся пыл. Разам з заходам сонца зрабіла гэта цікавы фон для зуброў на здымку. Я стаяў на ўзгорку і злавіў у аб'ектыў цікавую панараму. Я многа фатаграфую зуброў, ведаю іх месцы і часта заязджаю туды, каб зрабіць здымкі. Люблю фатаграфаваць прыроду не толькі дзеля ўдзелу ў конкурсах, але каб захаваць яе прыгажосць для сябе на фатаграфіях. Раблю здымкі архітэктуры і Белавежскай пушчы. Перш за ўсё фатаграфую птушкі. У гайнаўскім фатаграфічным конкурсе прымаю ўдзел ужо дзясяты раз, — заявіў Яраслаў Клей з Саколкі.

— Я таксама атрымаў вылучэнне за здымак з зубром. Хаця фатаграфаваў здалёк, зрабіў збліжэнне і пры адпаведным асвятленні паказаў магутнасць жывёлы. Сёлета камісія прызначыла мне спецыяльнае вылучэнне Падляшскай акругі Саюза польскіх фатографаў прыроды. Я таксама зрабіў здымак статка зуброў, якое збягала з узвышша ў гэтым самым часе і на гэтым самым месцы, што і Яраслаў Клей. Я гэтай фатаграфіі яшчэ не высылаў на конкурсы, але такая магчымасць у мяне застаецца, — сказаў Яраслаў Якубчак з Крынак.

Анджэй Гаінскі з Торуня атрымаў другую ўзнагароду за фатаграфіі выкананы ў Жаночым манастыры на Грабарцы, якія адлюстроўваюць малітоўную атмасферу Праабражэння Гасподняга. Аднак не прыбыў ён на падвядзенне вынікаў конкурсу, так як і лаўрэат трэцяй узнагароды Война Лісінскі з Ольштына. Апошні атрымаў узнагароду за фатаграфію мужчыны з сабакам на лодцы, якія пераправляюцца праз разлiў ракі, а побач плыве або ідзе па дне карова.

Тэматыка сёлетніх узнагароджаных здымкаў паўтаралася таксама ў мінулых выпусках конкурсу «Падляшша ў аб'ектыве», што пацвердзіў член конкурснай камісіі Тамаш Класоўскі.

— Я раблю стаўку на паказанне эмоцый на фатаграфіях і звяртаю асаблівую ўвагу на здымкі, якія выконваюцца ад сэрца, каб паказаць прыгажосць акружаючага нас свету, — заявіла член журы Бажэна Валенцік.


На конкурснай выставе можна ўбачыць краявіды, даўнюю і сучасную архітэктуру



Першую ўзнагароду атрымаў Яраслаў Клей з Саколкі за здымак статка зуброў

— Наша Падляшша паказваецца фатографамі такім, якім яно ёсць, з цікавай прыродай, культурай і этнаграфіяй. Здымкам, якія ўзнагароджваюцца і трапляюць на конкурсную выставу, характэрны высокі ўзровень іх выканання, — сказаў член журы Міхал Косць.

— Падляшша моцна мяняецца і таму варта фатаграфаваць тое, чаго ў будучыні можа ўжо не быць. Напрыклад, калісь стагі з сенам і табуны кароў былі паўсюднымі элементамі краявіду, а зараз гэтага амаль няма і таму варта нават для сябе фатаграфаваць тое, што хутка можа знікнуць. Здымкі з турыстычных падарожжаў мала прыдатныя для конкурсаў. Каб зрабіць мастацкі здымак, трэба добра перадумаць, што хочам на ім паказаць і як гэта маем намер зрабіць, а таксама выбраць адпаведную пару дня і адпаведнае надвор'е. Важныя ўмеласці і вопыт, каб, фатаграфуючы, вылавіць асаблівасці. Канешне, ёсць фатаграфіі людзей, птушак, ці звярыны, зробленыя ў зручны момант, якія пасля мог не паўтарыцца, але тут таксама патрэбныя ўмеласці фатографа, — гаварыў член камісіі Тамаш Класоўскі.

Бажэна Валенцік звярнула ўвагу на фатаграфіі прыроды, вылучаныя на конкурсную выставу. На іх відаць блізкую ёй Белавежскую пушчу, паколькі спадарыня Валенцік зрабіла ў ёй многа фатаграфій. У архіве конкурсу захоўваецца многа здымкаў, на якіх паказаны месцы кампактнага пражывання беларусаў Беласточчыны. На сёлетняй экспазіцыі таксама можна ўбачыць такія здымкі і месцы.

Камісія вылучыла здымкі Малгажаты Капанскай з Чаромхі.

— Фатаграфію падсветленага моста на Нарве каля Плёсак я зрабіла выпадкова, калі мы вярталіся ноччу дамоў. Здымак атрымаўся цікавы і я вельмі рада, што атрымала вылучэнне, — заявіла Малгажата Капанская.

На выставу быў вылучаны таксама здымак Кацярыны Чурак з Гайнаўкі. Яго аўтарка ў нестандартны спосаб паказала краявід з чыгуначным абсталяваннем у Нараўчанскай гміне.

— Я здаўна прымаю ўдзел у конкурсе «Падляшша ў аб'ектыве», здабывала ўзнагароды, а сёлета мой здымак з буслямі на старым ветраку атрымаў вылучэнне, — заявіла Беата Вільчынская са Студзянак.

Фатаграфія яе мужа Славаміра Вільчынскага з конямі на фоне Супрасльскага мужчынскага манастыра таксама была вылучана на выставу.

У аб'ектывы фотаапаратаў удзельнікаў конкурсу трапілі не толькі краявіды Белавежскай і Кнышынскай пушчаў, але таксама поймы рэк Нарвы і Бобры ды сельскія ландшафты.

— Я асабліва захоплена краявідамі. Вялікае ўражанне робяць шырокафарматныя здымкі, на якіх адлюстраваны цікавыя месцы нашага рэгіёна, — заявіла жыхарка Гайнаўкі.

На конкурснай выставе можна таксама ўбачыць архітэктуру, выявы цэркваў і, між іншым, будынка Падляшскай оперы і філармоніі ў Беластоку.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**





# Анекдот 2020

Самы свежы анекдот! І ў дадатак беларускі! Вось гэта ўдача! І пачуў я яго ў самыя першыя хвіліны Новага 2020 года за святочным сталом, з бакалам шампанскага ў руках і свіной адбіўной у зубах...

А ўсё было так. Мне пазванілі сябры, акурат як ад кіраўніка краіны віншаванні ішлі па тэлебачанні ды гадзіннік ужо стукаў заканчэнне старога года. Сябры павіншавалі мяне з Новым годам і пажадалі многа чаго добрага. Ды так многа, што каб усё пералічыць, заняло б плошчу не адной газеты. І яшчэ зверху пажадалі таго, чаго распавядаць на людзях, і тым больш у газеце, нельга. (Таксама добрага). І ў дадатак, як бы мовіць на дэсерт, расказалі самы новы анекдот у гэтым новым годзе...

Ну не паспелі петарды дагарэць, салюты адстраляць, шампанскае пазбавіцца сваіх бурбалак, а свежы як святочная закуска анекдот быў пададзены ў лепшай навагодняй упакоўцы па адным з інтэрнэтных месэнджараў майго ці то мабільнага тэлефона, ці то гаджэта, не ведаю дакладна як гэтая штука зараз называецца правільна. І яшчэ гэты анекдот быў агучаны з адпаведнай загадкавай і таямнічай інтанацыяй, што мела на мэце яскрава падкрэсліць глыбіню і непаўторнасць беларускай нацыянальнай сатыры...

Не магу сцвярджаць, што расказаны ў святочную поўнач гэты канкрэтны варыянт народнай творчасці мне моцна падняў настрой. Не. Не буду хлусіць. Але і не пагоршыў. Анекдот усё ж, а не нейкае страшнае прароцтва. Гумар, халера яго бяры, гэты гумар!

Ну мне то гумар даспадобы ў кожным варыянце. Я даўно зразумеў, што калі чалавек, або, нават, увесь народ, не можа глянуць на сябе, ці на нейкі перыяд сваёй гісторыі праз прызму гумару і не злога смеху над сабой, то ні гэты чалавек, ні гэты народ, так і не зможа вырвацца з канкрэтнага гістарычнага кола. Ну а анекдот то ўвогуле такім мусіць ствараца. На тое ён і анекдот...

А сутнасць таго новага анекдота 2020 года палягала на тым, што кіраўнік краіны, нашай Краіны, меўся ў віншавальнай навагодняй прамове падзякаваць беларускай апазіцыі... Ужо смешна!!! Бо, нібыта, толькі дзякуючы ёй, апазіцыі, і ўдалося адстаяць Незалежнасць! Бо штрафы, якія выплацяць апазіцыянеры за тое, што выйшлі на акцыі „За Незалежнасць”, з запасам пакрываюць страты ад павышэння коштаў на нафту і газ, якія Беларусі ў гэтым годзе як святочны падарунак залупіла Расія...

Як па мне, дык ужо абхахочышся! Але гэта яшчэ не ўсё! Бо аказваецца, беларускія тэлегледачы так і не пачулі гэтых слоў удзячнасці для апазіцыянераў з блакітных экранаў сваіх тэлевізараў, бо з навагодняга віншавання яны былі выразаны цэнзурай...

Ну няўжо яшчэ не смешна?! У мяне дык свіная адбіўная з зубоў вывалілася проста ў бакал шампанскага. Хоць і гэта яшчэ быў не канец! Канцоўка анекдота, ці як правільна па законе жанру называць кульмінацыя, прагучала неўзабаве — цэнзура, аказваецца, ажыццяўлялася з Крамля...

Ну, тут і шампанскае з рук выпала... Ды я і не шкадаваў таго шампанскага. Са свіной адбіўной у бакале яно ўжо глядзелася не так эстэтычна. Ды і назапасіў я яго, таго шампанскага, цэлую скрыню на святы. І не толькі яго... Ды і госці яшчэ прывалаклі, хоць заліся...

Справа не ў шампанскім. Сапраўды, штрафы, якімі пакаралі ўдзельнікаў акцыі „За Незалежнасць”, дакладней іх нерэальныя сумы, нармальна ўспрымаць нармальны чалавек не можа. Тым больш караць такімі. Іх можна ўспрымаць толькі або з жахам, або з жартам. І беларусы выбралі другі варыянт. Бо як кажуць у народзе, у кожным жарце, ёсць крыху жарту. Вось і тут так. Галоўны пасыл то быў, што начальнік краіны апазіцыі хацеў падзякаваць... Але вось цэнзура... Халера яе бяры, тую цэнзуру...

Ну а апазіцыя, нарэшце, заняла сваё належнае месца ў гэтай вуснай народнай творчасці. Дзякуючы ёй Незалежнасць ёсць. Вось яе галоўная справа. То хай гэтым і займаецца, а не разменьваецца на дробязі...

Ну то выпілі ў Новы год за тых, хто ў гэты святочны момант, калі прагучаў новы беларускі анекдот, сядзеў за кратамі за Незалежнасць. І тост „За Незалежнасць” выгукнулі. І ведаю, што за многімі іншымі сталамі ён прагучаў таксама... Такая наша рэчаіснасць...

Ну, а якая рэчаіснасць, такія і анекдоты.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Вось і ўсё

З г.зв. „праўдай” бывае па-рознаму. Хтосьці аднойчы сказаў, што „ёсць стольківі ісцін, колькі людзей на Зямлі”. У гэтым ёсць нешта, таму што ў кожнага чалавека свая праўда — мая, твая, наша... ісціна. Часцей за ўсё гэта аказваецца напалову праўдай, чвэрцьпраўдай і недапраўдай, якую яшчэ называюць пераканаттем. Пераканання ў тым, што „мая” праўда праўдзівейшая, чым іншая праўда, з'яўляецца прычынай спрэчак, сур'ёзных канфліктаў і нават войнаў. Я згадаю толькі міжплемянныя расправы, этнічныя ці рэлігійныя разборкі, якіх нямала і ў XXI стагоддзі. Так ці інакш, уся сусветная гісторыя напісана не атрамантам, а чалавечай крывёй. Пачынаючы з Траянскай вайны, праз мангольскія нашэсці і крыжовыя паходы, і, нарэшце, жорсткія войны ў XX стагоддзі, і заканчваючы нядаўнімі варварскімі канфліктамі — у Сірыі ці Самалі. Усе яны пачаліся, здавалася б, з нявінных пытанняў, якія задавалі антаганізаваныя партыі: хто мае рацыю, чыя праўда? Але ж мая, таму што чаму яна павінна быць тваёй? Рэдка бывае, што гэтыя наіўныя пытанні не выклікалі ваеннага пажарышча. Не раз і не два, а папраўдзе яны заўсёды пераносіліся ў рэальны свет, дзе ў выніку трэба было праліць чалавечую кроў, а матэрыяльныя здабыткі многіх пакаленняў былі знішчаны. Такім чынам разбурыліся вялікія цывілізацыі і квітнеючыя культуры адышлі ў нябыт. І ўсё гэта ў імя праўды. Толькі чыёй? А можа, ілжывай праўды? Несумненна, каб паставіць разумнае пытанне, варта раней ведаць што-небудзь пра тое, што яно датычыцца. Дзеці ставяць шмат наіўных, каб не сказаць дурных, пытанняў. Успомнім, аднак, што яны будуюць свае веды пра свет з нуля. Паглыбляючыся, пытанні, якія яны задаюць, становяцца ўсё больш дапытлівымі і мудрымі. Калісьці мой пляменнік быў ўражаны, здавалася б, лагічнай супярэчнасцю, што для таго, каб даказаць ісціну, трэба даказаць, што гэта не ілгунства. Для яго праўда і хлусня былі такія ж аддзельныя, як ноч і дзень. Такім чынам, праўда ў яго разуменні павінна быць даказана ісцінай, а ілжывасць — хлуснёй. І толькі праз некалькі месяцаў ён зразумеў сваю фіксацыйную памылку. Аднак да гэтага часу паміж намі не абышлося без халастых спрэчак і нават сварак. Мне здаецца, што на такіх самых фіксацыях грунтуюцца супярэчлівасці ў больш сур'ёзных пытаннях. Спрэчка, у якую ўступаюць найбольш вучоныя галовы паміж крэацыяністамі і эвалюцыяністамі, ніколі не скончылася. І яна, верагодна, не міне, пакуль існуе чалавечы від. Ці зямны шар існуе некалькі мільярдаў гадоў, ці ўсяго некалькі тысяч? Асабіста я размаўляў з некалькімі людзьмі, у тым ліку з двума пасля аспірантуры ў гуманітарных навуках, якія з поўнай упэўненасцю сказалі, што Бог стварыў Зямлю і ўсё жыццё на ёй роўна 7000 гадоў таму. Нягледзячы на відавочныя доказы артэфактаў з яе архаічнага мінулага. 7000 гадоў і ні на год менш! Акрамя таго, адзін з гэтых двух чалавекаў стаяў супраць усіх аргументаў, якія пацвярджаюць сферычнасць планеты. „Зямля плоская, як блін, і гэта праўда!” У палітычнай прасторы таксама адбываюцца вечныя войны; незалежна ці ў польскай, ці іншай. І гэта так, калі ўсе настойваюць на сваёй праўдзе. Толькі праўдзе, ці на сваім перакананні ў сваю праўду? На жаль, у канцэпцыі многіх людзей палітычная прастора такая ж віртуальная, якая генеруецца ў камп'ютарных гульнях. „Няхай палітыкі тузаюцца паміж сабою, гэта нас не датычыць”, — кажуць яны. Больш нічога дрэннага не можа быць. Нават калі палітычныя войны датычацца толькі палітыкаў і выключна ідэалагічных альбо ідэалагічных праблем, яны ўсё роўна даходзяць да сваіх каранёў у ніжняй частцы ўрадлівай рэальнасці, дзе звычайнае, паўсядзённае чалавечае жыццё працягваецца з вуліцамі яму спрэчкамі з праўду, за рацыю. Толькі на гэтым узроўні гаворка ідзе пра суседскую альбо кампанейскую, альбо грубую бойку, а на палітычным узроўні — пра сацыяльны парадак, мір і бяспеку. У канчатковым рахунку гэта не палітыкі нясуць адказнасць за наступствы войнаў, якія выклікалі, а тыя, хто іх абраў. Забіваюць адзін аднаго ў кровапралітных войнах не палітыкі, а звычайныя Яны Кавальскія.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Уладны хаос

Памаленьку калядны хаос на Падляшшы набліжаецца да завяршэння. Адсвяткаванне праваслаўнымі Трох каралёў будзе самым апошнім акордам месячнага цыкла хрысціянскага карагоду, звязанага тут з нараджэннем Ісуса Хрыста. Жыццё ў той перыяд мае ў сабе нешта з нейкага нерэальнага свету, які потым у сутыкненні з жорсткай штодзённасцю многім з нас прынясе адразу нейкія неўрозы і дэпрэсіўныя настроі. Але чаму здзіўляцца, калі менавіта нават з боку, здаецца, «разумных людзей і адказных устаноў» атрымліваем такія калядныя падарункі, ад якіх проста хапаешся за галаву, чухаеш патыліцу і баішся, каб з тых нерваў не звалілася вошы. Вось вам першы прыклад з берагу: 30 снежня 2019 года старшыня Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей **Ванда Навіцкая** рассылае, у тым ліку прадстаўнікам нацыянальных меншасцей, павестку аб скліканні на **7 студзеня пасяджэння камісіі — у першы дзень праваслаўных святаў —** такога вось зместу:

Przewodnicząca Komisji Mniejszości Narodowych i Etnicznych uprzejmie zawiadamia, że posiedzenie Komisji odbędzie się **7 stycznia 2020 r. (wtorek), w sali nr 05 (bud. U)** w gmachu Sejmu w Warszawie, przy ul. Wiejskiej 1. Początek posiedzenia **o godz. 12.00.**

**Porządek dzienny:**

Rozpatrzenie Informacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji na temat aktualnej sytuacji mniejszości narodowych i etnicznych w świetle „VI Raportu dotyczącego sytuacji mniejszości narodowych i etnicznych oraz języka regionalnego w Rzeczypospolitej Polskiej — 2018 r.”

Rozpatrzenie Informacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji na temat priorytetów polityki wobec mniejszości narodowych i etnicznych na lata 2020-2024.

Ванда Навіцкая — крайне левая дэпутатка Сейма і, відаць, не ў галаве ёй пашана да любой хрысціянскай традыцыі. Але ў складзе камісіі працуе Яўген Чыквін, якому прапанова такой даты пасяджэння камісіі напэўна з'яўляецца прыкладам невуцтва і зняважлівасці. Аднак яго пратэсту ў медыйнай прасторы наконт гэтай справы я не чуў. Камісія правяла працоўнае пасяджэнне ў назначаны дзень, доказам чаму з'яўляецца відэазапіс трансляцыі па адрасе: http://sejm.gov.pl/Sejm9.nsf/transmisje_arch.xspunid=27FB99FEABD9AF5AC12584E0003E0DA0. Важныя справы, якія кранаюць кожнага грамадзяніна Польшчы не будучага нацыянальнай большасцю, разглядаюцца ў тэрміне, калі частка з іх у сямейным коле святкуе Раждзтво Хрыстова. Нагадаю толькі, што Сейм працаваў з 7 па 10 студзеня і сустрэчу камісіі можна было б прызначыць на іншыя дні працы парламента.

А цяпер справа з нашага лакальнага панадворка. Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства аб'явіла ўрэшце доўгачаканы конкурс на рэалізацыю культурных праектаў у 2020 годзе:

**Otwarty konkurs ofert na zadania publiczne w sferze kultury, sztuki, ochrony dóbr kultury i dziedzictwa narodowego**

**Rodzaje zadań z zakresu kultury w 2020 r.:**

- realizacja festiwali i wydarzeń artystycznych o zasięgu ogólnopolskim i międzynarodowym;
- realizacja zadań w zakresie edukacji kulturalnej dzieci i młodzieży;
- realizacja przedsięwzięć artystycznych o zasięgu regionalnym służących upowszechnianiu różnych dziedzin kultury i sztuki;
- realizacja zadań w zakresie produkcji i prezentacji spektakli teatralnych w kraju i poza jego granicami;
- realizacja zadań mających na celu ochronę polskości, pielęgnowanie i upowszechnianie tradycji narodowej m.in. poprzez ochronę języka, tradycji, ważnych rocznic historycznych, patriotyzmu ojczyzny oraz wzrost świadomości narodowej.

У параўнанні з мінулымі гадамі цяперашняй Маршалоўскай управай увогуле ліквідаваны «**konkurs w sferze działalności na rzecz mniejszości narodowych i etnicznych oraz języka regionalnego**». А ў вышэйпералічаных культурных прынцыпах 2020 года не знайшлося месца для традыцыйнага і важнага для характару нашага ваяводства запісу: «Wspieranie inicjatyw kulturalnych mniejszości narodowych i etnicznych zamieszkujących na terenie województwa podlaskiego». Ці ж ізноў нас не мае быць у сябе?

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Найбольш прыемная нечаканасць,
## калі такі выпускнік, які ў ліцэі гаварыў толькі па-польску, раптам пачынае «рэзаць» «па-свойму»!



**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Паўплывала на гэта вучоба ў Гайнаўскім белліцэі, у якім раскрылі мне вочы на многія беларускія справы. Прыязджалі да нас на практыку студэнты з беларускай філалогіі ў Варшаве, якія расказвалі шмат цікавага і заахвочвалі паступаць на гэты кірунак. Мяне гэтае ўсё заінтрыгавала і паявілася ідэя, каб стаць у будучыні настаўнікам беларускай мовы.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Гэта мой настаўнік з ліцэя спадар Васіль Сакоўскі, які меў інтуіцыю і дасканалы падыход да вучняў. Таксама вельмі прыемна ўспамінаю са студыяў заняткі з прафесар Нінай Баршчэўскай, якая з'яўляецца выдатным мовазнаўцам.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Супрацоўнічаю амаль з усімі настаўнікамі беларускай мовы пры ўсялякіх мерапрыемствах, а найбольш з Анджалінай Масальскай і Марыяй Крук.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— У маім выпадку гэта Культурны цэнтр Беларусі ды гайнаўскія арганізацыі і ўстановы: Музей і асяродак беларускай культуры, Павятовае старaства, Гарадская ўправа.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Праекты не толькі для сваіх, але і вучняў з іншых школ: Конкурс беларускай гавэнды, культурна-адукацыйнае мерапрыемства «Пікнік з беларусам», «Мастацкія сустрэчы школьнікаў (супольна з Гайнаўскім белмузеем).

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Алімпіяда па беларускай мове, «Сцэнічнае слова», «Паэтычнае трохгалоссе».

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Зразумела, без добрага супрацоўніцтва з бацькамі цяжка было б весці адукацыйна-выхаваўчую працу. Бацькі дапамагаюць у арганізацыі ўсялякіх школьных мерапрыемстваў, а найбольш у падрыхтоўцы школьнага балю, званага «стадзёнкай».

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Якраз я знаходжуся ў такой добрай сітуацыі, што ўсе вучні нашай школы вывучаюць беларускую мову. Гэта не абазначае, што няма складанасцей. На настаўніку адказнасць у тым, каб кожнага вучня добра падрыхтаваць да матуральнага экзамену.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны ў тыдзень хапае на тое, каб рэалізаваць праграмныя асновы. Калі хочаш рабіць болей, а хочаш, дык астаецца пазаўрочная праца і час вольны ад вучобы і працы.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— Якраз вяду такую статыстыку. У мяне 30 лаўрэатаў і 70 фіналістаў Алімпіяды па беларускай мове ды 15 лаўрэатаў і 4 фіналістаў Ваяводскага конкурсу па беларускай мове. Мае навучэнцы з'яўляюцца пераможцамі конкурсу «Пазнай Беларусь», Падляшша — мазаіка шматкультурнасці, Конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют», Конкурсу беларускай гавэнды ды дэкламатарскіх конкурсаў: «Роднае слова», «Сцэнічнае слова», «Паэтычнае трохгалоссе», «Паэзія і проза на ўсход ад Буга», праваслаўнай рэлігійнай паэзіі, некалькіх польскамоўных конкурсаў.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— На ўзроўні ліцэя такія падручнікі па культурнай і літаратурнай адукацыі ёсць, не хапае нам цалкам актуальнага падручніка па мове.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— Выдатным лічу падручнік «Са словам праз стагоддзі» Вольгі Сянкевіч.

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Уладзімір Караткевіч, Барыс Пятровіч, Віктар Шніп.




**Янка КАРЧЭЎСКІ**. Шматгадовы настаўнік беларускай мовы ў II Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы. Старшыня Аб'яднання «Наша школа», якое дзейнічае пры белліцэі. Член управы Аб'яднання музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы. Арганізатар шматлікіх культурна-адукацыйных мерапрыемстваў, апякун школьнага тэатральнага гуртка «Драма». Аўтар двух падручнікаў для ліцэя. У свабодным часе любіць пабегаць.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— «Лісце каштанаў» Уладзіміра Караткевіча.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Зразумела, пастаянна чытаю «Ніву» і «Часопіс», заглядаю ў электронныя выданні «Свабоды» і «Нашай нівы».

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Фестываль «Бардаўская восень» у Бельску-Падляшскім і святкаванне Дня Волі ў Беластоку

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— Размаўляю, як з вучнямі, так і з выпускнікамі і хіба найбольш прыемная нечаканасць, калі такі выпускнік, які ў ліцэі гаварыў толькі па-польску, раптам пачынае «рэзаць» «па-свойму».

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Ёсць і такія, але яны хутчэй звязаны з выхаваўчай працай, чым настаўніка беларускай мовы.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Бюракратыя і калі штосьці трэба зрабіць «на ўчора».

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Ёсць іх вельмі многа і працуюць у розных прафесіях ды галінах.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Медаль Камісіі нацыянальнай адукацыі, Бронзавы крыж заслугі, званне «Настаўнік года беларускай мовы», Узнагарода Гайнаўскага старасты, шматлікія ўзнагароды дырэктара школы.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Поспехі маіх навучэнцаў, плён творчай працы.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Калі ў час нейкага мерапрыемства называюць маё прозвішча і чую бурныя воплескі вучняў.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня».

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Працэс асіміляцыі ўвесь час наступае і трэба ўзяць пад увагу тое, што наша сіла не толькі ў колькасці, але перш за ўсё ў якасці. Высокаадукаваных, здольных і таленавітых маладых беларусаў у нас даволі многа і ў іх наша надзея.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Жыццё ў горадзе? Не, ніколі!

**«Як не было б цяжка, на вёсцы ўсё прасцейшае», — гаворыць. Хаця весці гаспадарку гэта зараз не такая простая дзейнасць. Яна патрабуе добрага планавання працы, каардынацыі розных відаў дзейнасці, здольнасці выкарыстання сучаснай тэхнікі. Як эфектыўна кіраваць гаспадарствам, нават тым невялікім, ведае спадарыня Аксана з Альшанкі. Для яе гэта не толькі бізнес, але і сапраўднае захапленне, для якога пакінула сваю айчыну і горад.**



— З малака раблю ўсё, што магчымае! Мне вельмі смакуюць тыя ўсе прадукты, якія яшчэ памятаю з дзяцінства, — кажа спадарыня Аксана і з панадворка адразу запрашае ў хату. — «Латка» і «Руды», вы не ўваходзіце! — звяртаецца да сабак. — Яны такія кампанейскія, на крок мяне не адступаюць.

На гаспадарцы спадарства Тамашэўскіх, дзякуючы Аксане, паўстала невялікая сыраварня. Яна яе прыдумала, абмеркавала з цешчай, а муж прыняў да ведама і дапамог прыстасаваць памяшканне на сыраварню ў адпаведнасці з ветэрынарнымі рэкамендацыямі.

— Сюды я прыязджала на гандаль і так пазнаёмілася з мужам. Я — беларуска. Мая мама родам з Новай Руды, што пад Гародняй, бацька — з Навагрудка. Яны пазнаёміліся ў Друскеніках і там ужо засталіся. І я там дарастала, — расказвае Аксана, адначасова рыхтуючы каву. — Я, будучы малой дзяўчынкай, заўсёды ездзіла на канікулы да сваіх бабуль. Мне больш падабалася на вёсцы, у Новай Рудзе. Завяршыла я сярэднюю школу ў Друскеніках, гэта была музычная школа, пазней паступіла ў кансерваторыю ў Вільні, але мяне гэта не цікавіла. Я проста хацела з'ехаць з дому, — смяецца Аксана і прыносіць талерку з разнавіднымі пірагамі. Усе спякла сама. — Мама гаворыць, што я такая, як бабуля Галена з Новай Руды. Яна ўсё ўмела сама зрабіць. І дома, і ў полі. Сама свінню ўмела разабраць і ўсе вяндліны парабіць. Я таксама раблю свае вяндліны. Памятаю смак вантрабянкі — раблю таксама. Раю прыйсці ў красавіку на плошчу Касцюшкі, дзе адбудзецца велікодны кірмаш. Там літоўцы прывозяць выдатную вантрабянку. Не знойдзеце смачнейшай!

Сыры Аксаны бываюць розныя: свежыя, саспелыя, вэнджаныя, натуральныя, з соллю, часнаком... І цэлы час Аксана прыдумвае новыя варыянты паводле густу пакупнікоў. Аксана таксама робіць тварог летам, а зімой масла.

— У будучыні хачу зарэгістраваць фірму пад назвай «Альшанскі смак». Зараз я яшчэ ўвесь час сама вучуся і хачу ўсё рабіць як мага лепш. Я ўжо таксама вазіла свае сыры ў Літву, каб і там паспрабавалі нашых прадуктаў. Магу толькі сказаць, што ім пасмакавалі, — усміхаецца Аксана і ставіць на стол каву ў карычневых шклянках з дураллексу. Кава смакуе выдатна. — Смачна? Я знаю, я таксама нават да суседкі пайду, ну, вып'ю, але яна не такая як мая. Наогул мне смакавала кава толькі ў адным рэстаране ў Васількаве. Там такая як і ў мяне.

У сыраварні Аксана праводзіць пару, часам некалькі гадзін у дзень, бо малако чакаць не будзе. Гэта прадукт, які трэба хутка перарабіць.

— Я вельмі ўдзячна нашаму бургамістру (Міхалу Матыскелю — У. Ш.). Менавіта ён мяне заахвоціў да таго, каб займацца малочнымі вырабамі. Аднойчы папрасіў мяне прывезці свае сыры на гмінную ўрачыстасць. З таго часу падтрымлівае мяне і хваліць, — усміхаецца Аксана, гладзячы ката, які ўвесь час сядзіць побач







яе на лаўцы за сталом. — «Каўбаска» называецца. Ён з намі ўжо дзесяць гадоў. Я вельмі люблю жывёл. Сабак таксама ўзяла з прытулку. Яны ўсё разумеюць, як людзі, а часам нават больш.

Малочныя прадукты Аксаны вядомыя ўжо не толькі на Падляшшы, але і ў Польшчы. Аксана мае сваіх пастаянных пакупнікоў, якія за сырамі прыязджаюць адмыслова ў Альшанку. Яе бізнес развіваецца з году ў год.

— Не ідзе пра гэта, што я такая прадпрымальная. Я ніколі не лічу колькі сыроў раблю ў тыдзень, але каля дваццаці напэўна! Я працую адна і раблю ўсё з нашага малака, а яно вельмі смачнае. У нас каровы не ядуць сіласу, толькі сваё сена, муку. І, паверце, малако зусім смакуе па-іншаму, — кажа Аксана і перапыняе размову, бо звоняць пакупнікі. За час нашай размовы двойчы бегае ў сыраварню, каб прынесці прадукты кліентам. — Я ведаю, што ўмею з'яднаць сабе людзей. Я адкрытая і заўсёды стараюся з усмешкай сустракаць другога чалавека, нават калі мне самой цяжка. Людзі гэта адчуваюць, вераць, што няма ніводнага фальшу ў мяне і ў маім прадукце, таму купляюць. Вядома, я сама ад трох гадоў займаюся бізнесам, але пакуль што не разлічваю на прыбытак. Мой мужык ужо інакш. Вось, запрасілі мяне на святочны кірмаш у Беласток. Я штодзень ездзіла са сваімі прадуктамі. Часам здаралася, што спала толькі дзве гадзіны! Мужык пытаецца: «Навошта ты туды ездзіш? Больш грошай аддасі на бензін, чым заробіш». Можа і так, але калі б не паехала, што б я рабіла? Сядзела дома. А што з гэтага? Ай, так папраўдзе невядома, што ў гэтым жыцці аплачваецца. Чалавек працуе, нават калі запрацуе на добрае жыццё, прыходзіць старасць... і ўсё.

З Аксанай размаўляем 31 снежня. Яна ўжо напякла пірагоў і збіраецца вечарам з мужам да суседзяў. Не цікавяць яе балі і шумныя святкаванні, хаця ў Сухавольскай гміне такія адбываюцца ў не так даўно пабудаваным «Pensjonacie Poniatowskim».

— У пяць раніцы трэба падняцца і падаіць кароў, — смяецца. — Чаго сабе жадаю? Перш за ўсё хацела б здароўя, сілы і таго, каб ніколі не памяняць свайго ладу жыцця.

Альшанка — невялікая вёска ў гміне Сухаволя. Яшчэ засталося тут многа драўляных хат. Менавіта ў адным з такіх утульных дамоў жывуць Аксана з мужам. За васямнаццаць гадоў вельмі ўрасла ў гэтае месца і звязалася з людзьмі.

— Будучы маленькай дзяўчынкай, я вельмі любіла ездзіць на вёску да бабулі. Вёска для мяне ніводны выклік. Я тут вельмі добра сябе адчуваю і цешуся, што жыву ў месцы, дзе добрыя людзі навокал. Гэта вельмі важнае. Для мяне таксама не было лёгка прыехаць сюды з другой краіны, але з людзьмі з вёскі я, дзякуючы бабулі, заўсёды мела кантакт. Я адкрытая. Магу сябе пакласці на талерку. Калі я пабачыла, што вакол мяне такія людзі, я зразу падумала, што добра трапіла. Маю шчасце.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Вясёлая нам навіна...



**«Гвязда і калядка» ў дваццаць першы раз — у Беластоку. Дваццаць шэсць хароў і калектываў, якія налічвалі каля чатырохсот выканаўцаў, славілі 12 студзеня Новanaроджанага Хрыста ў Гарнізонным клубе ў Беластоку. Свае вакальныя, акцёрскія і сцэнаграфічныя магчымасці паказвалі ўдзельнікі з усёй Беласточчыны. Прэзентацыі калядных калектываў былі арганізаваны Беларускім грамадска-культурнымтаварыствам пры падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы і Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве.**





Не прападае народны традыцыйны звычай хаджэння калядгікаў па хатах на Каляды з выкананнем велічальных калядных песень, тэатралізаваных сцэнак, пераапрананнем у «казу», «мядзведзя», «кабылу», «жорава». За спевы калядгікам давалі дарункі. У аснове калядавання таксама старажытная аграрная абраднасць, агульным прызначэннем якой было паскарэнне надыходу цяпла («ад Каляд сонца паварочвала на лета») і забеспячэнне добрага ўраджаю ў новым гаспадарчым годзе.

Гэтае культурнае свята чакалася таксама шматлікімі беласточанамі, якія яшчэ нядаўна віталі калядгікаў у сваіх хатах, а і самі хадзілі з калядкай і гвяздай.

Васіль Сегень: віцэ-старшыня БГКТ, спасылаючыся на чарговы — XXI выпуск агляду, адкрываючы сёлетні цыкл культурных мерапрыемстваў Таварыства, сказаў:

— Нам вельмі прыемна, што мы гэтым аглядам можам працягнуць яшчэ святочны час, разам спяваць калядныя песні, каб на душы ў нас было вельмі радасна, весела з нагоды Нараджэння Гасподняга. Цешыць тое, што мы збіраем вялікую колькасць і ўдзельнікаў, і публікі. Акрамя нашых сталых удзельнікаў — хароў, калектываў — выступаюць тыя, хто толькі ў гэтым мерапрыемстве прымае ўдзел. Вядома, калядаванне на сцэне з'яўляецца крыху штучным. Вядома, што ў адпаведнасці з традыцыяй, яно ўключае ў сябе пераход ад хаты да хаты з віншаваннямі і жаданнямі дабрабыту і здароўя для гаспадароў у новым годзе. Традыцыя калядавання выводзіцца яшчэ з дахрысціянскіх часоў, калі яна тычылася звычаяў звязаных з урадлівасцю, каб быў добры ўраджай у наступным годзе і гаспадары жылі ў дастатку. Мэтай нашага мерапрыемства з'яўляецца захаванне традыцыі калядавання і паказанне, што яна існуе. Сёння не кожны можа ўдзельнічаць у яго традыцыйным вымярэнні. Такім чынам магчымасць пачуць калядкі на сцэне з'яўляецца заменнікам асабістага ўдзелу многіх з нас у вельмі прыемных звычаях. З таго, што я ведаю пра калядкі, у параўнанні з уласным вопытам, скажам, з дзяцінства, то наша беларуская меншасць уводзіць у гэты звычай чыста беларускія калядкі, да якіх словы напісалі ці пераклалі на беларускую мову тутэйшыя сучасныя аўтары, напрыклад, Віктар Швед.

Радаснай калядкай падзяліліся на аглядзе маленькія калядгічкі з Дзіцячага хору праваслаўнага прыхода Усіх Святых у Беластоку (дэбют), які вядзе матушка Анна Пятроўская. З калядкамі выступілі таксама дашкольнікі Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку пад апекай Дануты Тымашэвіч, Анны Бабік, Эвеліны Курган і Эміліі Кендысь, вучні з Праваслаўнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія, хор моладзі праваслаўнага прыхода Святога Духа ў Беластоку (кіраўнік Віта Кацюбайла), калектыў «Званкі» з Гайнаўскага дома культуры (кіраўнік Вера Масайла), як і старэйшыя, «вяковыя» калектывы — хор «Крыніца» (кіраўнік: Гражына Валкавыцкая-Тамашук, акампанемент: Міхал Варшыцкі), «Расспяваны Гарадок» (музычны кіраўнік Віктар Маланчык), «Арляне» (Мікалай Фадзін), гарадоцкія «Хутар» (Ян Карповіч) і «Асенні ліст» (Галена Бура), залуцкая «Каліна» (Марыянна Апановіч), ляўкоўскія «Цаглінкі» (Галена Бандарук), «Чыжавяне» (Юры Ганевіч), «Малінкі» з Малінік (Вера Нічыпарук), козліцкая «Рэчанька» з Любай Гаўрылюк і Алай Каменскай, бельская «Васілёчкі» і другі «Асенні ліст», які вядзе Тамара Русачык з Універсітэта залатога (трэцяга) веку — ён заспяваў, між іншым, «Ангелы співают, Бога прославляют». Бельскі «Антракт Плюс», традыцыйна ў якім выступаюць малечы і спелыя спевакі, у выдатнай рэжысуры Альжбеты Фіёнік натуральна і вельмі пасвойску паказаў падляшскае калядаванне ў хаце гаспадара. Міхалоўскія «Славянская нота» і «Чырвоныя шпількі» (Марыюш Харужы), звычайна вядомыя з лягчэйшага і забаўляльнага рэпертуару, больш навамодна заспявалі свае песні на хвалу Новanaроджанага. Калектыў з Вясковага дома культуры ў Рыбалах прывезла з калядкамі ўжо новая кіраўнічка — Адрыяна Бяліцкая-Скаўронская (дачакалася Ліда Мартынюк вартых заступнікаў на роднай ніве). Паявіліся новыя калектывы, якія вядзе Віта Кацюбайла — напрыклад, фольк-калектыў «Суседкі»; разам велічна выступілі хор горада Гайнаўка і хор Свята-Духаўскага прыхода; пявучая група «Землякі» з Засцянкаў, якую вядзе Мірaслава Дудаль — з сямейнай чацвёркай Астапчукоў ды іх сваякоў і сяброў — проста як ад каляднага стала. Калядкі амаль не паўтараліся, апрача ўлюбёнай «Ціхай ночы над Палесцінай» і хвалюючай «Спі, Ісусе», у якой, апрача радасці ад нараджэння Збавіцеля, прадбачваюцца яго пакуты на Крыжы і боль Маці — дзеля нашага выратавання. Калектыў «Ас» (Славамір Трафімюк) завяршыў больш па-эстраднаму — вось так і можна — калядаванне перад вялікай залай паўнюткай святочна апранутых і ў калядным настроі гасцей з сэрцайкамі за ахвяраванні на Вялікі аркестр святочнай дапамогі. «Дай Божа дождаці року нового!» і наступных родных свят!

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

## Гайнаўка разбудоўваецца

Гайнаўка — горад на ўскраіне Белавежскай пушчы. У ім напрыканцы 2000 года „выраслі" новыя жыллёвыя пасёлкі, між іншым, Мазуры і Пашкі. Адзін з іх займеў даволі вялікую плошчу паміж вуліцамі Паддольнай, Электрычнай, Простай і Паўднёвай. Тут пабудавалі каля двухсот адна- і двухпавярховых драўляных і мураваных дамоў самі жыхары. Яны выраслі хутка, як улетку грыбы пасля дробнага і цёплага дажджу. Зараз пабудавалі новыя вуліцы, між іншым, Доўгую, Кароткую, Сеўную, Важыўную, Квятовую, Садовую, Каласовую і Збожжавую. З часам паклалі на іх асфальт і на некаторых хаця па адной старане праклалі тратуары. Яшчэ ў 1997-2003 гадах у пачатку вуліцы Каласовай пасля дажджу стаялі вялікія ды даволі глыбокія лужы. Там, дзе ад вуліцы Доўгай пачыналася Каласовая вясной і летам квакалі жабы. Напрадвесні, калі раставаў снег, трэба было абмінаць лужы на вуліцы Доўгай ды на бакавых. Шмат гадоў мясілі ботамі і калясілі балота жыхары дамоў пры вуліцы Электрычнай, пачынаючы ад Паддольнай. На Паддольнай тады быў яшчэ ўхабісты брук, не было тратуара.

Да 1960 года ў гэтым паўднёва-заходнім раёне горада была вялікая паша, на якой пасвілі многа кароў. Выпас перасякала вытаптаная пешаходамі сцяжына. Жыхары Электрычнай скарачалі сабе дарогу дадому. З аднаго боку выпасу былі пасяўныя палеткі. На ворнай зямлі сеялі жыта і садзілі бульбу. Гэтую частку горада назвалі Пашкі. Мабыць, назва ад пашы, на якой ставілі ўсё больш і больш дамоў і ў выніку гэтай дзейнасці атрымаліся малыя арэалы паш — усяго пашкі.

У 1958-1962 гадах я вучыўся ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы і часта наведваў сем'і брата і сястры маёй мамы, якая жыве па вуліцы Электрычнай. Нават коратка ў іх жыў. На пашы была „дзікая" спартыўная пляцоўка. У цёплую пару года пасля поўдня хлапчукі гулялі тут у футбол. На пашы я навучыўся ездзіць на мужчынскім ровары, пад г.зв. рамай. Першы раз ехаў, ехаў і затрымаўся па-за гэтак званымі зялёнымі ўгоддзямі ў вялікім жыце, а папраўдзе я там з вузкага загона перакуліўся ў глыбокую разору. У колы веласіпеда закруціліся жытнёвыя сцяблíны з калоссем. Вось такі незабыўны юнацкі ўспамін. Каталіся на роварах ўсё ж навучыўся. Зараз мне гэтая навука спатрэбілася. У мяне два ровары і многа езджу, амаль кожны дзень. Хто мяне ведае, пацвердзіць.

Цяпер на колішнім травяністым выпасе красуецца даволі вялікі, прыгожы жыллёвы пасёлак. Усе дамы і панадворкі абгароджаныя. Платы і брамы вельмі прыгожыя жалезныя і звычайныя драўляныя, густоўна памаляваныя. Пры дамах растуць маладыя дрэўцы ды вясной і летам цвітуць рознакаляровыя кветкі.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

## Старыя таполі пры дарозе

Старыя ды з вялікімі ды цяжкімі гнёздамі амялы таполі як сталі гадамі, так і стаяць пры дарозе-гравійцы з Гарадзіска ў Плянту ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. З сухіх дрэў падаюць у равы і на дарогу галіны. Некаторыя дрэвы пераламаў напорысты вецер. Гэтых старых дрэў чамусьці не сякуць. Плянтаўскі солтыс і радны паведамляў гмінныя ўлады, але дагэтуль нічога не атрымліваецца.

Але ўсё бывае да пары. У ветраны зімовы дзень ці такую ж ноч сухія таполі могуць упасці на мастаўую дарогі. Перш за ўсё гэта небяспека для пражываючых тут людзей, якія ездзяць і ходзяць у Нараўку. Варта дадаць, што вёска Плянта налічвае больш за 150 жыхароў. (яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


# У пошуках залуцкага стылю

Вы ведаеце, што такое этнадызайн? Гэта ўсё больш папулярная мода, каб спалучаць фальклорныя элементы і рамёствы з сучаснымі трэндамі. Дызайнеры ўсё часцей натхняюцца народнай культурай і знаходзяць унікальныя, арыгінальныя ўзоры для сваіх работ. Такім чынам можна стварыць практычна ўсё: ювелірныя вырабы, адзенне, мэблю і нават цэлыя будынкі.

У Залуках ужо самыя маленькія вучні звярнулі ўвагу на асаблівыя ўзоры і вышыўкі на тканінах, якія хаваюць па шафах іхныя бабулі. Малгося і Вікторыя нават прынеслі макатку ў школу, каб паганарыцца перад сябрамі прыгожым палаценцам. Кацпэр сваім смартфонам парабіў здымкі ручнікоў, якія ўпрыгожваюць пакоі сваёй бабулі Ірэны. Усе з цікавасцю глядзелі ў мабільнік сябра і, ківаючы галовамі, сцвярджалі, што нешта такога знойдзецца і ў іхных хатах. Таму вырашылі мы пазнаёміцца з народнымі беларускімі ўзорамі і тады паспрабаваць адчытаць зафіксаваную ў палатне мудрасць.



Беларускія арнаменты — моцныя і таямнічыя, і хаця былі з намі ад стагоддзяў, надалей натхняюць ужо самых маленькіх. Таму ўзнікла ідэя, каб зрабіць свой ручнік! Вядома, гэта вельмі складаная працэдура, якая патрабуе шмат часу і здольнасці. Таму мы абмежаваліся да белай паперы ды чырвонага і чорнага алоўка. Кожны выбраў свой арнамент, які размаляваў на паласе паперы. Пры гэтай рабоце вучні стагналі і скрыгаталі зубамі. Паверце, не так лёгка намаляваць беларускі народны арнамент! Цяжка паверыць, што нашы бабулі былі такімі майстрыхамі і вышывалі такія складаныя ўзоры. Кожную палоску, над якой працаваў канкрэтны вучань, мы прыклеілі да вялікай аркушы паперы. Такім чынам пасля двух заняткаў цяжкай працы паўстаў наш ручнік. Ён вялікі і прыгожы, але перш за ўсё цікавы тым, што складзены з дванаццаці палосак дванаццаці вучняў. Мы ўжо ведаем, што з'яўляемся часткай большай беларускай супольнасці. І толькі разам выглядаем прыгожа і цікава — так як наш ручнік! А вас запрашаем яго паглядзець у Рэгіянальны куточак, які знаходзіцца ў нашай школе ў Залуках. Да сустрэчы!

**Уля ШУБЗДА**

# Міфы
## старажытных беларусаў

**Чорны колер** – самы часты ў вышыванках і тканінах. Нашы продкі звязвалі яго з зямлёй і небяспекай. Ён быў пашыраны ў рытуалах звязаных са смерцю, з разбуральнай сілай. Аднак чорны колер лічыўся таксама абярэгам. З яго дапамогай можна было абараніцца ад дэманічных сіл. Людзі верылі, што чорны казёл дапаможа пазбавіцца ад дакучлівага дамавіка. Даволі пашыраны погляд пра чорнага ката, які пераходзіць дарогу. Такі знак абазначаў дрэнныя навіны, паразу, няшчасце. Але ўжо чорны кот разам з чорным пеўнем і чорным сабакам мелі спрыяць у гаспадарцы, у жылы будынак ніколі не стрэліць пярун, а злодзеі будуць абыходзіць хату.

Чорнай сілай часта называлі нячысцікаў, лесавіка, палескіх русалак.

Чорны колер дамінуе ў пахавальна-рытуальных абрадах. Нашы продкі верылі, «што чорнае адганяе чорнае». Чорны быў таксама колерам спеласці і багацця. Лічылі, што грэчка, пасеяная з бруднага і чорнага фартуха, хутка паспее. Пры дапамозе чорных валоў-блізнят абворвалі вёску, з якой з дапамогай магічных абрадаў «выганялі» эпідэмію. Людзі верылі, што пры дапамозе чорнага каменьчыка, прынесенага праз чорнага крумкача, можна зрабіцца нябачным, а з яйка, знесенага чорным пеўнем, можа вывесці змея, які будзе прыносіць дахаты грошы.

*(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей»)*

**(гак)**

# УВАГА КОНКУРС!
## № 03-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 2 лютага 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Хто малюе без рук і алоўка?**

**М....**

**Адказ на адгадку № 51: футбольны матч. Узнагароды — аўдыёкнігі «Суперкніга пра Біла з Болаю» Гунілы Бэргстрэм — выйгралі Тацяна Цясноўская з Бельска-Падляшскага, Рафал Вакулюк з Гайнаўкі, Тамаш Ваўранюк з Нарвы. Віншуем!**

## Размалюйце



# Казінае казіно

Мілейчыцкая каза Міхаліна
шпарыць на «Аўдзі» проста да Берліна.
Акуляры, газ з капыта,
сонца, вецер, дах адкрыты.
А ў Берліне, як у кіне,
толькі жыць так Міхаліне –
смачны стравы проста з травы
тут ужо танцы і забавы.
Козы, козлікі, казляняты
з ланцугоў зусім адпяты,
рогі горда падымаюць,
ў кожну краму заглядаюць.
Вось цырульня і паслугі:
стрыжка шэрсці і бародкі,
фарбаваны хвост кароткі.
Па-суседску клічуць козы:
«Капыты зробім прыгожы,
макіяж кладзем пад вочы».
Дык гуляй каза ўночы!
Калі адрэналіну
было замала,
ў казіно каза папала,
дзе і шчасце ёй прапала.
Не паспела аглядзецца
і ў даўгах ужо застаецца.
Каб з паліцыяй не разбірацца,
трэба з «Аўдзі» развітацца.
З самой раніцы, зусім не міла
каза Міхаліна ўцякала з Берліна.
Бягучы па чыгуначнай шыне,
залівалася слязамі
па сваёй маленькай айчыне.

**Стары Дзік**

## Агеньчыкі да неба


**Спадарыня Альжбета Рудкоўская з сынкамі**

28-ы Вялікі аркестр святочнай дапамогі — як ніколі быў вялікім і нават яшчэ большым...

І важны для нас, беларусаў Падляшша.

Мы не толькі кідалі грошыкі ў скрыначку, але працавалі як валанцёры, выступалі на сцэне, купаліся як маржы ў халодных праламках, калядавалі і пасылалі эсэмэскі. Усё для таго, каб падтрымаць ідэю дапамогі хворым і патрабуючым....

Ужо чарговы раз для «Аркестра» танцаваў наш цудоўны «Падляшскі вянок». Танцоры, то-бок беластоцкія навучэнцы беларускай мовы пры Аб'яднанні АБ-БА, як заўсёды ўзрушылі публіку адмысловым канцэртам, які прайшоў ва Універсітэцкім цэнтры культуры. Таксама наша карэспандэнтка Вікторыя Гаць (зараз вучаніца Бельскага белліцэя) выступіла на сцэне з беларускімі песнямі. А гарадоцка-міхалоўскія «Прымакі», якія падарвалі публіку пры беластоцкай ратушы, наклікалі карнавальную атмасферу гульні і радасці. Калі нашы «Прымакі» агучвалі свае шэдэўры, людзі скакалі і абдымаліся ў радасных віншаваннях.

— А цяпер заіграем так, — гаварыў лідар гурта Юрка Астапчук, — каб нас у Міхалове пачулі...

І сапраўды грымнулі так, што ажно цэнтр раскалыхаўся... І распалілі такую радасць, што не расказаць...

Пры песнях «Прымакоў» разам з сястрой Галяй, шваграм Андрэем і пляменніцай Агнешкай мы хадзілі са скрыначкай і тэрміналам. Былі такія моманты, калі людзі чакалі ў чарзе, каб укінуць грошы ў нашу скрыначку і атрымаць чырвонае сэрцайка. І як ніколі, сярод публікі было многа-многа дзяцей. Іх шчырыя, радасныя ўсмешкі блішчэлі наперамenку са студзеньскім сонейкам, быццам абвяшчалі калядную радасць «на небе і на зямлі».

Мы падумалі, што гэта сапраўдны «агеньчык да неба», які яшчэ раз здзейсніўся ад людскай прыгожасці і дабрыні.

І праўда, як падаюць крыніцы, валанцёры зноў сабралі рэкордную суму, прызначаную на лекаванне хворых дзяцей і сеніёраў.

А клас і шчодрасць беларусаў паказалі жыхары Гарадоччыны, якія ахвяравалі ў скрыначкі, амаль 25 тысяч злотых!

**Зорка**
**фота: Ганны Кандрацюк**

# Польска-беларуская крыжаванка № 03-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 51-2019:**

Група, кішэнь, вароты, банан, пяро, алень, шмат, рута, рыкша, мана, ганак, жаба, Ас. Баран, валун, планета, рана, конь, га, раб, шыпшына, ямка, рашка, льгота.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Оля Мадзалеўская** з Нарвы, **Паша Пахвіцэвіч, Матэвуш Крот, Дар'я Несцярук, Вікторыя Залеўская** з Орлі. Віншуем!



Частка 11

# Генетычны алфавіт

А хлопец не здаваўся:

— Можа, ты ўжо з кім была?! — спытаў.

Зноў горлам спытаў.

Тут ужо і вецер заціх, і птушкі, і кветкі прыціснуліся да зямлі...

— Што?! Што ты гаворыш?!

У дзяўчыны ажно дух пераняло. У вачах пацямнела. Што-што, а гэтага пачуць яна не чакала. Ад яго не чакала.

— Можа, ты ўжо з кім была і баішся, што я гэта зразумею? Таму і цягнеш да шлюбу, — дабіў ён яе.

Цяпер дакладна дабіў, як абухом па галаве вушастага ангорскага трусіка. Дабіў — мала сказаць. Дабіў у самае сэрца. Як свінку закалоў. З аднаго ўдару. Раз — і кранты...

Вось гэта і быў той аргумент для прыстойных жанчын. Непрыстойныя то ведаюць, як на гэта рэагаваць, і зробяць вінаватым таго, хто задае такія нетактоўныя пытанні. Гэта для іх — раз плюнуць і расцерці пяткай, для тых непрыстойных. Той, хто так спытаў, будзе пасля ў нагах валяцца, як гануча, і прабачацца, як нікчэмны раб, які без дазволу з'еў недаедкі гаспадара... Ну, гэта з непрыстойнымі так...

А вось прыстойныя заўсёды пападаюцца на такое, як маленькія мышкі ў хітра пастаўленую пастку з прынадай. Ды і хлопцы такое гавораць толькі тады, калі на ўсе сто ўпэўненыя, што гэта няпраўда. Гавораць дзеля шантажу. Каб дзяўчына захацела даказаць, што гэта не так. Але нават у гэтым выпадку ўсё можа пайсці не па плане. Дзяўчына можа так пакрыўдзіцца, што рады не будзеш. Паляціш шукаць у роднай хаце пяты кут. І можа так стацца, што знойдзеш. А можа, такая недасведчаная і прыстойная дзяўчына і саступіць. Прыстойнасць падвядзе. І недасведчанасць. Пяцьдзясят на пяцьдзясят. Не так і кепска. Хлопцу варта рызыкнуць. У такім узросце нават трыццаць на семдзесят здаецца добрай раскладкай. А тут палова на палову...

Эх, маладосць, маладосць!!!

Алена на нейкі час застыла, аслупянеўшы, як манумент у полі. Пасля крыху адышла ад нечаканага шоку. Падумала. Зусім мала падумала. Прыняла рашэнне:

— Калі так думаеш, то бяры, правярай, — сказала яна ганарова падняўшы нос угору, хоць усё яе аблічча сведчыла пра вялікую ўнутраную крыўду на каханага.

Працадзіла гэтыя словы праз зубы з выглядам пакрыўджанай Клеапатры. Спадзявалася, што хлопец засаромеецца сваіх падазрэнняў і адмовіцца ад задуманага.

Эх, маладосць, маладосць! Маладосць недасведчаная!

Васіль быў добрым хлопцам. Вельмі добрым, асабліва як з ім добрыя. Але не джэнтльменам. І не патрабуйце ад калгаснага хлопца джэнтльменства. Гэта Алена начыталася рамантычных кніжак, вось і пракалолася. Бо свет успрымала праз іх узвышаныя матывы. А Васілю толькі гэта і было патрэбна, каб яна здалася. Яго маральны компас меў толькі адну стрэлку, і зараз яна ўказвала зусім не на мараль, а на неабходнасць правядзення хуткай і бязлітаснай атакі. Дазвол быў. А ўсе крыўды пасля загладзяцца! Ён так думаў. Ён больш не губляў часу на пустаслоўе. Узяў дзяўчыну на рукі і панёс у стажок сена як сваю ўласнасць, якой можа карыстацца цяпер, калі захоча, дзе захоча і колькі захоча.

Яна паслухмяна абняла яго за шыю і больш не пярэчыла. Як маленькая мышка ў кіпцюрах крумкача. Сена яшчэ было не сенам. Гэта была яшчэ толькі ўчора скошаная трава, на якой у промнях ранішняга сонца блішчэла раса сярэдняй зярністасці. Але гэта ўжо не важна...

Васіль скінуў свой пінжак і кашулю, заслаў іх для Алены і беражліва, як выраб з тонкага празрыстага крышталю, з пяшчотай і ласкай паклаў яе на іх. Ён чуў яе дыханне. Як прыемна яна дыхала, яго ўласнасць!

Яна чула стук яго сэрца. Тут-тук-тук... І так бясконца, з паскарэннем. Ёй было ўжо ўсё роўна. І нават не. Не ўсё роўна. Яна цягнулася да яго сама. Яна нават падумала:

„Ну і чаго я раней яму не дазваляла, дурная. Ну, дакладна дурная. Дала б — і ўсё на гэтым. Такая бабская доля некалі пагадзіцца. Дык чаму не цяпер, калі я з ім? Ці ж разумна будзе адмаўляць свайму каханаму, які і яе кахае ў дадатак?!"

Яна ўжо адчувала яго рукі ў сябе пад сукенкай. Непрызвычаеныя да жанчыны рукі. Няўмелыя. Яна адчула, які ён нязграбны ў распрананні дзяўчыны. Як кацянё, у якога яшчэ вочы не расплюшчыліся. Усё навобмацак. Хоць ты пакажы яму сама, што і як трэба расшпіляць і ў якой паслядоўнасці. Яна падумала:

„Ну, хутчэй бы ўжо ўсё скончылася! Ці хоць хутчэй бы ўжо пачалося..."

З ёй жа не любы, каханы! Усё адно некалі да гэтага дойдзе, дык чаго цягнуць? Ён мае рацыю! Чаму не цяпер? Хай будзе цяпер! Яна сама гэтага жадае...

І раптам над яе тварам навіс нейкі жудасны цень... О неба! Гэта была карова. З чорна-белымі плямамі. Адзін рог зламаны. Другі крывы. Вочы вялікія, прыгожыя, як у каровы... Гэта карова яе суседзяў. Зорка. Алена пазнала яе. Карова хіба што таксама пазнала Алену, таму і падсунула да яе сваю морду. Васіль хутка даў той Зорцы па той мордзе нагой, і яна тут жа паслухмяна адышлася. Але ўсё было сапсавана незваротна. Алена ўжо адпіхнула хлопца ад сябе.

— Ну, бачыш? — прашаптала яна.
— Дзень ужо. Каровы ў поле выгналі. Зараз і пастух тут як тут будзе. Я ж казала. Прашу цябе, давай сёння вечарам. Прашу цябе. Я абяцаю.

У Васіля яшчэ была кволая надзея на выпраўленне сітуацыі. Ды і дзяўчыну не адпускалі сумневы, ці варта адцягваць. Хлопец сабраўся з новымі псіхалагічнымі сіламі і зноў пайшоў у рашучую атаку, моцна абняўшы прадмет свайго імклівага баявога налёту, але тут перад іх вачамі ледзьве не салдацкім крокам выйшаў з кустоў пастушок. У вялікіх гумовых ботах, з пугай, і сонны, як пераспелая бражка для самагонкі. Ён не бачыў закаханых. Ён нічога не бачыў. Проста крочыў за каровамі і на хаду дасыпаў свой недаспаны час. Але, хоць і драмаў, цвёрда так крочыў, рашуча, як малады салдацік. І гэтак жа бадзёра і рашуча тупануў сваімі вялікімі ботамі прама ў свежы, яшчэ цёплы каровін блін. Хіба што той Зоркі. Ажно пырскі пайшлі ва ўсе чатыры бакі. Як салют у гонар Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі атрымалася.

Пастушок нават не заўважыў гэтага. Уступіў, куды не трэба, і пайшоў далей услед за статкам, куды трэба. Але гэта быў апошні цвік у магільную накрыўку Васілёвых спадзяванняў.

— Якая гадасць, — паказала пальцам Алена свайму каханаму на пастушка. — Ты бачыш, па чым тут ходзяць людзі?! Фу-у-у! А ты ў вёсцы хочаш рэшту жыцця прамыкацца. А ад жыцця без каровінага дзярма дык адмаўляешся.

— І што? — сумна адгукнуўся Васіль.
— Што тут такога?

Ён зразумеў, што яго наймацнейшы аргумент, аргумент аргументаў, які можна выкарыстаць толькі аднойчы, прапаў марна. Прапаў назаўжды, як грошы ў піўной. Вось жа няўдача! Хоць вый ваўком! Хоць брашы сабакам! Хоць ржы жарабцом... Не, жарабцом тут не да месца і не да часу. Які з яго жарабец, калі так атрымалася. Лепш пашукаць іншую аналогію ці ўвогуле перавесці думкі на іншую тэму.

— Можна падумаць, ты ніколі ў маленстве не ўступала, куды не трэба, — сказаў ён хоць што, першае, што прыйшло ў галаву, бо не ведаў, што тут можна сказаць у такой безнадзейнай сітуацыі.

Настрой зваліўся ў траву ніжэй за карані. Вось усё ўжо было ў яго руках. І на табе, нейкая карова... Нейкі пастушок... Нейкі каровін блін... Салют нейкі... Ну што гэта такое! Ну чаму так не шанцуе?! Хоць ты плач!

— І што, ты хочаш, каб і нашы дзеці ў дзярме тапталіся? — Алена ўжо была ў іншай тэме. — Таму я і кажу табе, што пасля шлюбу паедзем у Мінск. У мяне там цётка Ганна. Настаўніцай працуе. Прапіша нас у сябе. Ты пойдзеш працаваць шафёрам гарадскога транспарту. А пасля нам дадуць інтэрнат. Як будзе добра! А я пайду вучыцца. Ой, як я хачу вучыцца!

— Выкінь гэта з галавы, — Васіль плюнуў сабе пад ногі. — Цярпець не магу горада. Ну што той Мінск? Калгасная канюшня, толькі з людзьмі! Не развярнуцца, не высмаркацца па-людску, ні дыхнуць, ні выдыхнуць. Людзей — як мурашак. І ўсе лятуць некуды. Не! Куды заўгодна, толькі не ў Мінск!

— Ну, Васіль!

— Хопіць! Пасля пагаворым. Вечарам. Пагляджу як ты датрымаеш сваё слова. Помніш, што абяцала?! А то непакоішся, каб нашы дзеці чысты абутак мелі, а справа да дзяцей і блізка не даходзіць. Мне ўжо трэба на работу. Чуеш: нашы шафёры ўжо завялі маторы.

Ля сельсавета сапраўды ўжо разносіліся бадзёрыя галасы шафёраў, якія жартавалі з жанчынамі, што крочылі на ферму. Тыя з імі міла і юрліва аджартоўваліся. Пяшчотна так. У такт іх флірту пачынала паскудна, як жалезам па шкле, тарахцець калгасная тэхніка.

— То ідзі, — папрасіла дзяўчына.

— Ідзі-ідзі! Не пайду, пакуль ты цвёрда не паабяцаеш, што вечарам не будзеш мне пярэчыць, — настойваў юнак.

— Добра, — імгненна схавала яна пачырванеўшыя шчокі за яго шыю.

— Што добра? „Добрае" яна тут мне. Гавары: „Абяцаю!". Цвёрда гавары.

— Абяцаю, — сказала яна і сама не паверыла што сказала.

Ажно вочы заплюшчыла ад страху.

— Дык дакладна дасі? — стараўся сабраць як мага больш абяцанняў юнак.

— Ну, сказала ж, — дзяўчына прыціснула пальцам яго вусны, каб замоўк.

І дадала:

— Толькі давай сустрэнемся дзе далей ад вёскі. Я тут баюся.

— Давай. Выбірай дзе.

— Давай у Касабуцкім лесе. Памятаеш, на той палянцы, дзе так спявалі салаўі, як ты мяне першы раз праводзіў дахаты.

— Памятаю. Я той вечар ніколі не забуду.

— Але і правеў ты мяне тады! Тры кіламетры ішлі цэлую ноч. Праз Касабуцкі лес чамусьці папляліся, хоць ён не па дарозе, — засмяялася дзяўчына.

— Касабуцкі лес заўсёды па дарозе, — адказаў хлопец, які так любіў той лес. — Незалежна ад таго, куды ты ідзеш, ён усё адно па дарозе, — дадаў.

І яшчэ дабавіў:

— Я ўсё жыццё суправаджаць цябе буду, — і пацалаваў яе ў вусны.

І так цёпла стала абаім, што думкі пра развітанне былі невыносныя, як само развітанне.

Яны яшчэ пастаялі абняўшыся ў яе садзе, не маглі нацешыцца адно другім. Як пара лебедзяў, як закаханыя галубкі... Як Алена і Васіль. Вось так больш дакладна, як Алена і Васіль!

Эх, каханне, каханне...

— Я абяцаю, вечарам, — прашаптала яна, пачырванела да ўзроўню насычанасці колеру нябеснага свяціла і кінулася дахаты.

— У Касабуцкім лесе, — кінуў ён наўздагон.

І таксама пайшоў. На працу. Шчаслівы, бадзёры, энергічны, абнадзеены, моцна абнадзеены... Нібыта і блізка не было тых бяссонных начэй і нерваў. Яна ж паабяцала. І не падумаць паабяцала, як раней, а паабяцала канкрэтна.

Эх, Васіль, Васіль! Малады і дурны, як дзіравы валёнак з левай нагі. Жанчына паабяцала, а ён верыць. Ну не, можа так стацца насамрэч, як жанчына паабяцала. Часамі здараецца. Але ж гэта не таму, што паабяцала. Супадае проста яе жаданне



з яе ж абяцаннем. Часцей за ўсё выпадкова супадае.

Праходзячы ля амбулаторыі Васіль заўважыў, што ў кабінеце іх лекара адчыненыя дзверы. Але не надаў гэтаму значэння. І дарма. Ён пазней будзе яшчэ ўспамінаць гэты момант. Праўда, не хутка. Праз доўгія гады. А зараз толькі падумаў:

„І што гэта наш лекар сёння так рана на працу выйшаў? Вось жа алкаголік стары! Відаць, учора не знайшоў гарэлкі нідзе, то сёння мае бяссонніцу і пошук. А хутка пабірацца пойдзе, як апошні жабрак. А яшчэ доктар! Ён жа без гарэлкі суткі не працягне. Можа, знайсці дзе і наліць яму сто грам? Але часу няма на пошук. Не здохне. Можа, так хто нальe. Свет не без добрых людзей".

І сапраўды, добрыя гэта людзі ці не добрыя, а ўжо пад палiклінікай нейкія незнаёмыя круціліся, як вошы на грэбені. На вёсцы незнаёмыя не застаюцца незаўважанымі. Адзін надта ж загарэлы ці ўчарнелы, нібыта бязбожна піў горкую на сонцы і ды яшчэ голы. А другі — пухлы, высокі і агідны такі, як здохлы шашок. Усё да сваёй машыны „Пабеда" то падляцяць, то адыдзецца.

Ну, як шпіёны. Ды зараз не да іх. На працу трэба.

— Здароў, дзядзька Лявон! — прывітаўся ён па дарозе з конюхам.

— Здароў, дзядзька Язэп! — крыкнуў праз дарогу кавалю.

І пабег.

А Алену няшчадна напружвалі думкі пра сённяшні вечар і пра яе абяцанне. Яна ўжо не была так упэўненая ў яго выкананні, як паўгадзіны таму. Усё вярнулася на колы свае, як сабака на свае ваніты. Ну, праўда, чаго ён спяшаецца? Да шлюбу тут засталося зусім крыху! Лета ж заўсёды хутка праляцяе. Гэта зіма марудзіць. А лета як куля прамільгне. Ды і восень таксама. Яе ўвогуле не заўважаеш, тую восень. Усе за працай так душацца, што, пакуль снег не выпадзе, і спіны няма калі разагнуць. Глядзіш — і вяселле адгуляюць. А пасля хай робіць што хоча! А зараз пацерпіць. Не здохне. Яшчэ ніхто не здох ад гэтага.

„І чаму я паабяцала?! — дакарала яна сябе. — Не магу зразумець. Не ведаю, што цяпер рабіць. Адмоўлю, то ён пакрыўдзіцца яшчэ больш. Вунь які страшны быў. Чорны, як зямелька, ад злосці. Як чарназём. Як здань у хляве. Пагаджуся — значыць характару не маю. Усё жыццё буду без характару, як гануча. Не! Не пагаджуся! Што я яму, вулічная дзеўка, ці хто?! А яшчэ што сказаў, паганец! Што я з кімсьці была ўжо! Але ж гад які! Скот бязрогі! Як ён мог! Ні за што не пагаджуся! Хай думае што хоча. Не, не і не! Але ж і яго шкада. Як прасіцца пачынае ажно сэрца разрываецца. Ну, паглядзім там. Што тут ужо зробіш. Будзе як будзе. Можа, усё абыдзецца неяк? Усё неяк само ўтрасецца".

А сонейка ўжо паднялося на належны для гэтага часу ўзровень і спакойна завісла над засакрэчанай вёскай. Ласкавае, цярплівае, добрае... Свяціла для ўсіх. Для добрых і злых, для закаханых і раззлаваных, для руплівых і гультаёў, для п'яных і цвярозых, для вяскоўцаў і для прыезджых...

(працяг будзе)

Віктар САЗОНАЎ



**Вера РУСІНОВІЧ**
Нарва




# На руодной ніві

За рыэчкой, за лугом доліна
Там квіеткі пухушчы ростут
Усланы дыван як карціна
І днём і ночу жывут
На бэрэгу пташка сідзіела
І свіркала гожэ вона
А вецер квіеткі тут укладае
Од тэплоты сонца, дожджа
У гору ростут і говорат
Для нашуой душы
А запах гуляе ў поветры
Усем хто проходзіт
– Жывэ коло іх
Слова сіэты богаты
Усе мілы на руоднуй ніві жывут
Вяжут пучок – сказы
З якога тэмат об родзіне
У далёком сьвіеце нэсут
Чужые народы познают
Подляску нашу зэмлю
Слоў родную нашу мову
Якую на картцы пішу
Якою дзісь говору

## 2

Холодным, колючым ветром
Пузьняя осэнь госьціт на зэмліе
Паўціна стэлеццэ ўсюды
Як нічэніцы на кроснах
За сухую траву зачэпілась
Порвала гожу сукенку
І пошла далей
У рыэчцы бэрэг з бэрэгом сплела
Сухі лісток упаў з дэрва
І прорваў рубіж сорочкі
Прадзяны паўком – паўціна сховалась
Сьнігом мокрым плягою накрылась
Усё на дворыэ сырое – хмурнэ нэбо
Дэнь короткі, вэчэром шаруга
Доўгіе тэмные ночы, зороў, міесяца нэма
Смуток жывэ, а туман стэле ему дорогу
Нэма відного дня, пузьня осэнь прышла
Смутком выпускае душа поветро на двуор
Цяжко сказаці слова
Молітву прочытаці ешчэ лёкшэй
У хаці душы моей
Дзісь слёза потэкла умыла шчокі
І зэмлю промочыла
А ў сэрцы кіпіт смуток, дыхаці
А лёгко, цяжко сказаці ўсё, што на душы лежыт
Бо туолькі поняція осталось для нас
З которого хто хочэ чэрпаці, учыцісь
Як по дорозе віечной праўды ісьці
Узаўтра узнают усіэ.

## 3

Богородзіца Царыца
Маці міра любові і тэпла
Сохрані народ наш православны
От нешчасьця, буры гневу і огня
У той хвіліне глянь своім воком
На родные нашы полі і ліесы
Розложы свуой амофор над нівою
Сохрані од улевы, граду і дожджа
Сограшаем мы прэд Богом
Заступіся, Царыца, Ты за нас
І помілуй у молітве на ўсякі час
Бо нэ знаем чым мы, грыэшны,
Заповедзь нарушаем дану нам
Богородзіцэ, Царыцэ,
Ты одна надзея на Зэмлі людзям.

## 4

Сіла потрыэбна душы
Слова молітвы говорат у любові
Пламень возносіццэ ўгору
Пэрэз аблакі сіне Нэбо
Хвалямі ў повіетры жывэ
Спокуойно ціхо ўсэ
За морэ нэ глянэш...
За гору нэ ступіш...
А словом молітвы накорміці усэ можна
Вэліка нагрworld чэкае людзі
За труд у молітве з верой прыбудэ
Усіх од сна будзіт вона
І кажэ, што сонцэ ўстало
Нагрыэло зэмлю
Аромат з пахушчой квіеткі
Ступіў кроком на двуор
А пташка дзюбнула лісток
зэлёной травы
Дзісь гожэ засьпівала
Голосом пробудзіла вэсну
Дрымучы ліес заговорыў
З пучкуоў лісьцямі голі покрыў
І рыэчцы сказала
Ціхо плыві до мора
Кінь хвалю тэплой воды
На бэрэг ёго
Усё словом молітвы жывэ
І сілу мае ўсэ
Бог слово дае

## 5

О Сьвяціцель Отец Ніколай
Нам у жыцю помогай
Мы ў сэрцы імя Твое носім
А душы молітвой о здороўе просім
На снігові сліеды остаўляем
У Дом Божы мы сьпішаем
Душа хочэ помолiцісь
Прэд іконой поклоніцісь
Кнуот у свіечцы запаліці
На подсьвечніку стоіт
Тэплэ слово говорыт
Ты Сьвяціцель Ніколай
Здороўе і сілу од Бога нам подай
Мы ў молітве Тэбэ просім
Праз Твое ў цэркву слова прыносім
Нас у маю сонцэ грэе
Од Сьвята Ніколая на дворыэ тэплее
Квіетка на травіе цьвітэ
Запах вітром усюды рознэсэ
Будэм Сьвятого ўспомінаці
Отца Ніколая почытаці
Імя Его велічаці

# Мае ўспаміны і тое, што пачуў, бачыў, разумеў... і свае погляды, рэфлексіі, высновы

(ч. 3)

Гэтую царкоўна-прыхадскую школу, а пасля двухкласнае народнае вучылішча паканчылі такія людзі, як Трафім Панфілюк і пэўна яго браты, у тым ліку і мой дзядуля Лярка (пішацца Гіляры), Павел Дзям'янавіч Анапрыюк, Раман Старасельнік, Канстанцін Тапор з Тафлілаўцаў, Арцём Сцяпанавіч Чыквін, Аляксей Герасімюк, Лявон Мацыевіч, Мірон Герасімюк з Бахматаў і іншыя. Большасць з гэтых вышэйзгаданых асоб пасля паканчалі сярэднюю адукацыю ў розных кутках велізарнай Расійскай імперыі. А напрыклад Арцём Чыквін (бацька нашага паэта, навукоўца і прафесара Івана Чыквіна) сярэднюю адукацыю здабыў пры Саветах у 1939-1941 гадах і ў той час настаўнічаў у вёсцы Грабавец. І ў той час людзі жылі, працавалі, радзіліся ім дзеці. Жылі напэўна бедна, але затое дружна, не так, як сёння, дзе матэрыялізм і багацце гоніць за матэрыяльнасцю і самагубствам...

Але надыходзілі чорныя хмары, і як заўсёды — з захаду. Бо 1 жніўня выбухнула Першая сусветная вайна ў 1914 годзе паміж царскай Расіяй ды Прусіяй і Аўстра-Венгрыяй. Адна, як і другая дзяржава мела сваіх саюзнікаў і распачаліся па ўсёй Еўропе крывавыя бітвы. Спачатку рускім нядрэнна вялося і мелі свае перамогі, але скора іх хрыбет пахіснуўся і пачалі адступаць



на ліні фронту. І тут нам беларусам улетку 1915 года надляцеў чорны воран — трагедыя бежанства. Трэба было пакідаць свае гнёзды і ехаць у бязмежную Расію. Царскі ўрад разнёс фальшывую прапаганду аб дзікасці і жорсткасці немцаў, што, маўляў, яны выразваюць цыцкі нашым жанчынам і закопваюць у зямлю жывымі. На бяду царква падтрымлівала і лічыла за праўду гэты фальш. І многія людзі верылі ў гэтыя байкі, хаця не ўсе. А хто не хацеў ехаць, дык казакі палілі іхнія вёскі.

Дубічы не былі спалены, бо амаль усе жыхары выехалі ў бежанства ў Расію. Але, напрыклад, сям'я Арцёма Чыквіна не паехала ў Расію і ёсць два меркаванні: або яны ведалі (гэта найхутчэй), што расейцы ілгуць як з нот, або Чыквіны былі такія бедныя, каб вырушыць у такую далёкую дарогу.

І летам гэтага 1915 года мая бабулька Агафія атрымала смутную вестку з фронту, што яе муж Лярка ў баях каля крэпасці Модлін загінуў як герой, атрымаўшы Крыж Св. Георгія І ступені. Ён як добраахвотнік пайшоў на вайну бараніць цара і чэсць Расіі, як адданы патрыёт, пакінуўшы вялікую гаспадарку, маладую жонку Агафію і пяцёра малалетніх сыноў. Найстарэйшы, Федзя, меў восем гадоў, а наймалодшы Іван (Ванька) меў няпоўнае паўгода. Былі яшчэ Валодзя (мой бацька), Мяфодзій і Міхал (Мішка). Хтось мо задасць мне пытанне: чаму я зноў вяртаюся да бежанства маіх продкаў, калі я ў свой час пісаў аб гэтым і было гэта на старонках «Нівы», а пасля ў каштоўнай кнізе п.з. «Бежанства»? А пішу таму, што будзе больш дабавак і тут яны патрэбныя, а іх няма ў першай версіі. І гэта ўсё. І вось распачну.

Мая бабулька, як удава з пяцярымі малалетнімі сынкамі таксама выбралася на тэрыторыю бязмежнай Расіі, як у той час яе звалі. Падумаць, як ехаць з пяцёркай дзяцей у такую даль і які лёс чакае кожнага бежанца! Ехаў і Трафім, і напэўна быў ён памочнікам і дарадчыкам маёй бабулькі. Ехалі фурманкамі са сваім набыткам за гады багаццем і напэўна не было яно вялікім, бо людзі жылі бедна. А Расія з нядаўняга феадалізму пераступіла парог капіталізму і ён бурна пачаў дзейнічаць, прытым паспяхова. Прыкладам таму з'яўляецца амаль усюды пракладзеная чыгуначная магістраль і дарогі, якія ў нас завуць жалезнымі. А таксама разумны чалавек Расіі прэм'ер і міністр унутраных спраў правеў у краіне славутую аграрную рэформу на карысць мужыкоў і, на жаль, не паспеў яе закончыць, бо бальшавікі пакапаціліся, каб яго замардаваць і гэта ўчынілі восенню ў 1911 годзе ў тэатры ў Кіеве; забойцам быў нейкі Багроў, жыд. Бальшавікі баяліся як агню дабрабыту ў Расіі і ў першую чаргу дабрабыту расійскага мужыка; бо хто тады пойдзе бараніць іхнюю дурную крывавую рэвалюцыю?..

(працяг будзе)

**Мікалай ПАНФІЛЮК**




Тэатраў, якія ставяць свае спектаклі выключна на беларускай мове, у Беларусі зусім нямнога. Рэпертуар большасці тэатральных калектываў рускамоўны з рэдкімі пастаноўкамі па-беларуску. Таму аб беларускамоўных тэатрах, як своеасаблівых перлінах беларускага тэатральнага мастацтва, варта казаць асобна.

Адным з іх з'яўляецца тэатр „Лялька", які знаходзіцца ў вялікім і старадаўнім горадзе Віцебску, што на паўночным усходзе Беларусі. Яго сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе **https://lialka.by** і мае даволі прываблівы выгляд.

Уверсе цэлага выяўлення знаходзіцца лагатып тэатра, яго афіцыйная назва — Беларускі тэатр „Лялька" і выйсці на шматлікія рубрыкі. „Беларускі тэатр „Лялька" — гэта дзясяткі спектакляў, дзе маштабныя, складаныя і спрэчныя філасофскія пытанні разглядаюцца ў прывабнай, лёгкай форме, зразумелай нават трохгадовым даследчыкам светабудовы. Спектакляў, у якіх асцярожны, няспешны зачын імкліва закручвае спружыну эмоцыяў і цягне за сабою да невярагоднага фіналу", — распавядаецца на старонцы „Аб тэатры". Там жа можна пабачыць фотаздымкі са спектакляў тэатра, яго будынка, фотарасповеды аб удзеле ў разнастайных мерапрыемствах пад адкрытым небам.

Пра гісторыю тэатра апавядаецца на адпаведнай старонцы. Згодна размешчанай там інфармацыі, яна пачалася з таго, як у 1985 годзе пры Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры імя Якуба Коласа, які таксама знаходзіцца ў Віцебску, пачала працу трупа артыстаў-лялечнікаў. „20 красавіка 1986 года адбылася першая прэм'ера калектыву — спектакль «Дзед і Жораў» Віталя Вольскага. Гэты дзень традыцыйна святкуецца як Дзень нараджэння Беларускага тэатра „Лялька", — паведамляецца на дадзенай старонцы і адзначаецца, што „Лялька" адасобілася ад драмтэатра толькі ў 1990 годзе.

Віртуальна пазнаёміцца з калектывам тэатра можна на старонцы „Калектыў", якая падзелена на чатыры падрубрыкі — „Мастацкі кіраўнік", „Трупа", „Творчы склад" і „Адміністрацыя". „Гэта заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь — супольнасць аднадумцаў, дзе працуюць майстры, здатныя прыдумаць і змайстраваць невядомы дагэтуль механізм, пашыць сукенку для лялькі-прынцэсы і за адну хвіліну ператварыць звычайны дзень у свята", — з гонарам распавядаецца пра калектыў на тэатральным сайце. Нязменным мастацкім кіраўніком тэатра з'яўляецца заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Віктар Клімчук, „дбаннем якога з маленькай лялечнай трупы вырас адметны тэатр, любімы віцяблянамі і вядомы далёка па-за межамі Беларусі".

Тэатр сапраўды актыўна ўдзельнічае ў разнастайных тэатральных фестывалях як у Беларусі, так і за яе межамі. Пра гэта сведчыць старонка „Фэсты". Паводле размешчанай там інфармацыі, удзел у фестывалях „Лялька" прыняла ад 1986 года — з таго часу, як акторы выступілі са сваёй першай прэм'ерай — спектаклем „Дзед і Жораў". Вельмі часта віцебскі лялечны тэатр становіцца ўладальнікам разнастайных дыпломаў і ўзнагарод.

На сайце „Лялькі" ёсць такая старонка як „Адукацыя". Канешне, уласна тэатр нейкага навучання не вядзе, але ўдзельнічае ў некаторых праектах, звязаных с папулярызацыяй тэатральнага мастацтва для дзяцей і распаўсюдам беларускай мовы.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

# 90 гадоў з дня нараджэння
# Сцяпана МІСКО

Беларускі мастацтвазнавец, культуролаг, дысідэнт Сцяпан Міско нарадзіўся 18 студзеня 1930 г. у вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Вучыўся ў мясцовай пачатковай школе, пасля скончыў беларускую школу № 1 у Слоніме і Мінскі інстытут замежных моў. Пасля заканчэння інстытута Сцяпан Міско вярнуўся ў Слонім. У мястэчку Альбярцін (цяпер мікраёна Слоніма) у сярэдняй школе шэсць гадоў выкладаў французскую, нямецкую, беларускую і рускую мовы.

У 1958 г. Міско паступіў у аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Пасля працаваў у гэтым інстытуце (завочна вучыўся ў дактарантуры на кафедры тэатра народаў СССР у Маскоўскім інстытуце тэатральнага мастацтва). У 1962 г. у Кіеве ў Максіма Рыльскага абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму „Вытокі беларускага народнага тэатра". Апублікаваў больш за сотню артыкулаў у розных газетах, часопісах, зборніках і альманахах, прысвечаных беларускаму тэатру, літаратуры, жывапісу, музыцы. Напісаў доктарскую дысертацыю на тэму „Беларускі тэатр ад вытокаў да першай паловы XVIII стагоддзя". Але абараніць яе Сцяпан Міско не паспеў.

У 1974 г. Міско звольнілі з працы з Акадэміі навук БССР, дзе ён працаваў старшым навуковым супрацоўнікам. Ён казаў у інтэрв'ю пазней: „Нас выгналі тады за «неправильные взгляды по национальному вопросу». Выгналі мяне, Міколу Прашковіча з Інстытута літаратуры, Вячаслава Рабкевіча з БелСЭ, Алеся Каўруса з Інстытута мовазнаўства, Міхася Чарняўскага з Інстытута гісторыі. Патраслі некаторых хлопцаў і ў Гародні. Мяне трымалі ў КДБ роўна шэсць дзён і ўсё вялі допыт. Зрэдку адпускалі паесці, а пасля зноў дапытвалі. А пасля, як п'яніцу, адправілі на 10 дзён спачатку ў медвыцвярэзнік, а пасля — прыбіраць смецце і працаваць на Мінскім маторным заводзе. А потым адпусцілі".

„Віна" Сцяпана Міско была ў „нацыяналістычнай пазіцыі" (фактычна ў тым, што ў сваіх публікацыях у перыядычным друку і ў публічных выступленнях на з'ездах творчай інтэлігенцыі, ён бараніў правы беларускай мовы, казаў пра яе прыгнечанае становішча ў БССР). Міско актыўна друкаваўся на старонках газеты „Літаратура і мастацтва" і часопіса „Нёман" у дыскусіях пра лёс нацый і моў, дзе практычна раскрываў афіцыйную дзяржаўную канцэпцыю пра зліццё моў як беспадстаўную і псеўданавуковую. Сцяпан Міско раскрываў галоўных артыстаў Беларускага Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, якія дрэнна размаўляюць па-беларуску на сцэне падчас спектакляў. А для КДБ важна было арганізаваць „нацыяналістычную" групоўку.

Сцяпана Міско выклікалі на бюро ЦК КПБ перад пленумам 1974 года. Першы сакратар ЦК КПБ Пётр Машэраў гаварыў Міско пра „адзіны савецкі народ", пра „адну мову" і г.д. А потым пачаў крычаць на яго. Гэты факт яскрава разбурае міф пра нібыта „патрыятычнага" Пятра Машэрава. Нягледзячы на ціск, Сцяпан Міско прынцыпова застаўся на сваіх беларускіх пазіцыях. Пасля размовы з Машэравым два гады ён не мог уладкавацца на працу. Пасля ўладкаваўся ў Дзяржаўны музей БССР. А перад пенсіяй працаваў намеснікам галоўнага рэдактара ў выдавецтве „Універсітэцкае". У 2000 годзе асобным выданнем выйшла з друку кніга Сцяпана Міско „Школьны тэатр Беларусі XVI-XVIII стст.". У ёй даследуецца тэатральнае мастацтва Беларусі перыяду сярэднявечча.

Памёр навуковец у Мінску ў 2010 годзе, пахаваны ў сталіцы.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Яны калядавалі...



Фота Янкі Целушэцкага

7 студзеня гэтага года ў Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета.

## Марнатраўства харчавання

Свята, свята і... па святе. Чалавек заўжды рыхтуецца да свята быццам да вялікай нагоды, выдае шмат грошай на прадукты і падарункі, гасцей спадзяецца. А выходзіць наперакор. Падарункі не ўсім аказаліся трапнымі. Госці не прыехалі, затым і харчавання шмат засталося: пячэнне, каўбаскі і мясныя вырабы, салаты, рознага віду вінегрэты. Адзін Гасподзь адно ведае, якіх ласункаў жанчыны не прыдумалі.

Пакарыстаюся сваім прыкладам. Да мяне госці завіталі ў нядзелю 5 студзеня. Дачка Аліна з Кшысем ды маладажоны Кінга з Данелем. Другая дачка, Ірэна, гасцявала са сваімі дзецьмі ў Чаромсе. Беластоцкая дачушка, як гаварыла, рабіла закупкі і рыхтавала Куццю на пяць душ. У канчатковым выніку ў аўтамабіль ледзь усё змясцілі. І так пасля кожнай нагоды бывае, што застаецца шмат харчавання. На вёсцы з гэтым меншая праблема. Рэшткі ў гаспадарцы прыдадуцца. Свінкамі, авечкамі ці птушкамі — куркамі ды гускамі скормяць.

А ў горадзе? Паводле статыстыкі 42% палякаў прызнаецца, што здараецца ім выкідаць харчовыя прадукты, 35% робіць гэта некалькі разоў у месяц. Найчасцей выкідаюцца хлебабулачныя і мясныя вырабы, гароднiна і фрукты. Паводле даных Федэрацыі польскіх харчовых банкаў марнуецца 235 кілаграмаў харчовых прадуктаў на аднаго чалавека ў год. У гадавым падліку складае гэта 9 мільёнаў тон харчоў.

Арганізацыя аб'яднаных нацый устанавіла Сусветны дзень харчавання. Яго мэта — павышэнне грамадскай свядомасці на тэму глабальных праблем харчавання, затым падмацавання свядомасці пачуцця салідарнасці ў змаганні з голадам, недаяданнем і бядотай. Гэта надта істотныя праблемы, паколькі два мільярды людзей пакутуюць ад недаядання. Паводле даных статыстычных ААН па справах харчавання і сельскай гаспадаркі (ФАО) у год марнуецца 1,3 мільярда тон харчавання. Гэта затрата 1/3 вытворчасці харчавання ў час, калі 821 мільён людзей свету пакутуе ад голаду. У Еўрасаюзе ўзнікае 88 мільёнаў тон прадуктовых адпадаў вартых 143 мільярды еўра.

❖Уладзімір СІДАРУК

## Будзьма з „Нівай"

Па свеце шагае 2020 год. Мы, чытачы беларускага штотыднёвіка, атрымалі родную газету з беларускім календаром на 2020 год. „Ніва" з укладышам ёсць яшчэ ў продажы, між іншым, у кіёсках на першым і другім паверсе шпіталя ў Гайнаўцы, на пошце ў Нараўцы, у прадуктовай краме ў Плянце, рэдакцыі „Нівы" ў Беластоку і ў ніжэйпадпісанага ў Новым Ляўкове (дом № 20).

Я ўзяў у Новае Ляўкова 50 экземпляраў „Нівы" з календаром. Палавіну ўжо прадаў. Купілі некаторыя жыхары Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Плянты і Новін Нараўчанскай гміны ды мае знаёмыя з Гайнаўкі. Пакупнікоў падабраў мне нараўчанскі лістаноша. Ён прывёз газеты ды пасылкі і пры такой нагодзе прадаваў „Ніву" на дзень раней ад мяне. Ужо ў чацвер, калі я якраз паехаў па газету ў Беласток. Апрача таго ён даў яе ў продаж у прадуктовыя крамы ГС. З пошты ў Нараўцы я выслаў 1 экземпляр „Нівы" з календаром на 2020 год брату Міхасю ў Шчытна Вармінска-Мазурскага ваяводства.

Новыя мае пажылыя пакупнікі з Новага Ляўкова будуць ранняй вясной, калі вернуцца ў сваю вёску з „зімоўкі" у горадзе ад сваіх дзяцей, братоў і сёстраў. Званілі мне па тэлефоне і прасілі, каб мець для іх „Ніву" з календаром. Для мяне гэта не навіна. Так было і ў папярэднія гады. Я іх ніколі не падвёў.

❖Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

## „Дзікі Захад"



Адну ваколіцу над Баброўкай (прытокам Нараўкі) у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета называюць „Дзікім Захадам". Навокал пустэча, глухамань. Ваколіцу перасякае жалезная дарога з Гайнаўкі ў Семянюўку. Тут шырокія, зараз мокрыя, надрэчныя лугі і сенажаці, дзікая завілістая рэчка, раз'езджаная трактарамі балоцістая дарога і абарогі, з якіх цяпер, зімой, духмянае сена з'ядаюць... зубры.

Я рабіў фотаздымак абскубанага буйнымі дзікімі рагатымі жывёламі абарога, калі яны пайшлі шукаць сабе зацішку ў міклашоўсім або плянтаўскім лесе, бо ў апошнім дні мінулага года веяў халодны снежанскі вецер ды імжэў дробны дождж. Я крыху змёрз у рукі і ногі. Паеду зноў на „Дзікі Захад", калі, мабыць, настане снежная і марозная зіма.

❖Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. якуцкая рака, левы прыток Лены = 15 _ 29 _ 1 _ 2 _ 6 _;
2. вонкавы орган слыху = 28 _ 22 _ 10 _ 16 _;
3. выходзіць з коміна = 3 _ 27 _ 25 _;
4. пара года з Рыбамі = 21 _ 17 _ 18 _ 13 _;
5. антонім дабра = 4 _ 8 _ 20 _;
6. імя Сяднёва, беларускага літаратара (1913-2001) = 23 _ 24 _ 14 _ 5 _ 12 _;
7. сярэднявечны горад на Нарве між Бельскам і Тыкоцінам = 7 _ 9 _ 19 _ 11 _ 26 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | | | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 51 нумара**

Намаз, пеон, соннік, урду.

Рашэнне: **Дурному закон не пісан**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалу Байко** з Беластока.

# 19.01 — 25.01

**(22.03. — 20.04.)** Не абыдзецца без праблем, але абароніш сваю пазіцыю. Вырасце твой прэстыж і фінансы. Будзеш востра рэагаваць на драбязу. З 24.01. (да 26.01.) вялікая пасяховасць. 21-25.01. пазнаёмішся з кімсьці, хто падфарбуе зімовыя дні і вечары. Паб'еш ворагаў і прагоніш энергетычных вампіраў са свайго атачэння. 24-26.01. шанцы на падзаработак або карысную інвестыцыю; не дабівайся цяпер павышэння, сітуацыя ў фірме напружаная. Сходзі да цырульніка!

**(21.04. — 21.05.)** Заканчэнню старых спрэчак у сям'і спрыяе час 18-22.01. Але 21-25.01. не спяшайся і будзь асцярожным — магчымыя аварыі, асабліва ў дарозе. З 25.01. удасца вырашыць праблемы ў парах. Стабільная сітуацыя ў фірме, супрацоўніцтва ў калектыве, добрая атмасфера. З 24.01. кепскія эмоцыі разгружай фізічным высілкам.

**(22.05. — 22.06.)** 23-25.01. маладзік Месяца ў Вадалеі гарантуе табе ўдачы ў інтарэсах і асабістым жыцці. Пасля 20.01. адчуеш гатоўнасць да рэалізацыі смелых задум. Праблемы, якія прамоўчвалі або замяталі пад дыван 24-28.01. могуць затрэсці вашым жыццём. Шчырасць бывае балючая, але часам няма выхаду чым размова з партнёрам. 24-26.01. не камбінуй, не падлізвайся, шчыра паразмаўляй з кіраўніцтвам. 19-22.01. абмяркуй свой бюджэт; спачатку розныя аплаты, а калі што астанецца — на мілую «распусту». З 25.01. не перацэньвай сваіх магчымасцей.

**(23.06. — 23.07.)** Фінансавы дастатак. Абмінуць цябе праблемы на працы. Не плануй вечары праводзіць дома. З 24.01. (да 28.01.) не разлічвай на ўдалыя рандэву і любоўныя заваёвы. На працы будзеш неабходны і незаменны. Калі маеш сваю фірму, будуць большыя датацыі на развой або занятак для працаўнікоў. Варта адсвяжыць кантакты. Зайдзі да дантыста.

**(24.07. — 23.08.)** 19.01. нервы і праблемы са сном. Забавы 23-25.01. напэўна цябе не расчаруюць. Будуць проста шалёныя атракцыёны! 21-24.01. будзеш поўны красы і вабнасці — зачаруеш кожнага! 21-25.01. можа вызначыцца новы напрамак кар'еры; можа паказацца нечаканая прапанова працы з неспадзяванага месца. Калі ты нарадзіўся ў І дэкадзе, не задумвайся — хапай нагоду!

**(24.08. — 23.09.)** Не турбуйся тым, на што не маеш уплыву. Зойдзеш туды, куды хацеў зайсці. Новыя эмоцыі. Але і спакуса рызыкоўных паводзін. Інвестуй у сябе. Новыя інвестыцыі мабыць не прынясуць хуткіх прыбыткаў, але будуць бяспечным капіталаўкладаннем. Не рызыкуй у спорце. З 24.01. будзеш лішне гарачы і схільны да скандалаў.

**(24.09. — 23.10.)** 19-22.01. набудзеш штосьці файнае ў хату. 21-25.01. дасканалы час на інвестыцыі. 23-25.01. інспіруючыя сустрэчы і размовы. Не будзеш стаяць на месцы. 19-22.01. не праваронь шанцу на шматабяцальнае знаёмства. З 24.01. (да 28.01.) у парах крыху непаразуменняў у Шаляў з ІІІ дэкады. 24-26.01. кончыш сямейныя спрэчкі, важная размова. Калі няма снегу, хадзі з кійкамі.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш амбітны і баявіты. Твае планы маюць падтрымку неба. Выклічаш вялікі ўплыў на іншых. Някепскі настрой, які пяройдзе на іншых. Скарпіёны з І дэкады 23-25.01. сустрэнуцца з крытыкай з боку старэйшых сямейнікаў; прымі гэта да ведама, і рабі сваё. Праб'ешся са сваімі задумамі. Добрая пасада як рукой падаць — азірніся, глянь на аб'явы, пераканай будучага шэфа, каб паставіў на цябе. 21-25.01. выберыся на большыя пакупкі, не выдай толькі зашмат. Пільнуйся: з 23.01. (да 29.01.) хтосьці можа табе разбіць сэрца!

**(23.11. — 22.12.)** 21-25.01. можа здзейсніцца твая мара пра каханне і дастатак! 24-26.01. нагода да далёкага падарожжа або цікавых курсаў. Адчуеш, што ўвесь свет — твой, а мары як рукой падаць. 19.01. магчымая аварыя хатняга абсталявання. 23-25.01. усё ўдасца, толькі спрабуй. Вельмі пільнуйся з касай з 24.01. (да 28.01). З 22.01. кепскі ўплыў Нептуна на здароўе, асабліва для народжаных на пераломе ІІ і ІІІ дэкады; аперацыі ці нават дробныя працэдуры могуць ускладніцца, магчымыя памылкі, а аздараўленне працяглае.

**(23.12. — 20.01.)** Вырашыш праблемы і дасягнеш віднага поспеху. Самотныя няхай бяруць стырно ў свае рукі — усё залежыць ад вас. 21-25.01. прыбудзе табе грошай. Калі ты з І дэкады — можаш набыць жыллё. Менш чорнай кавы, больш святла.

**(21.01. — 19.02.)** Магчымыя страты змінімалізуе Венера ў сферы фінансаў. Прыліў энергіі адчуеш 20.01. позна ўвечары. 21-25.01. выбухі зайздрасці і рассакрэчанне «скоку ў бок»! 23-25.01. сустрэнеш братнюю душу; знаёмства можа стаць каханнем. На працы пасля 20.01. больш незалежнасці. 24-26.01. хутка прысвоіш нават найбольш складаныя веды. Новага бізнесу не пачынай перад 24.01.

**(20.02. — 21.03.)** 18-22.01. сімпатычныя сустрэчы і ўдалыя імпрэзы. 21-25.01. большыя грошы, магчыма што з выйгрышу! З 24.01. (да 28.01.) зоркі асцерагаюць цябе ад «скоку ў бок». З 25.01. не зашкодзь сабе сам. 25.01 (да 29.01.) можаш сустрэць асобу назаўжды; не сядзі дома. У старой пары стварайце новыя рытуалы, захапляйцеся адно адным, незалежна ад стажу.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# Перад Кракавам і Варшавай

Так мне склалася, што ў апошні час не ўдавалася мне наведацца ў нашу глыбінку. То лянота апаноўвала, то крышку праступа прычапілася. А вось у калядное свята здалося мне, што акурат трапляецца нагода вырвацца некуды з Беластока. Ну, не адразу, бо ж чалавек я звычайна грэшны і ў вігілію трэба прыстойна павячэраць, дванаццаць страў асіліць. У першы дзень паснедаць прыстойна трэба было, а ў другі так жа паабедаць. А ў трэці дзень можна падумаць і аб загарадным адпачынку. Задумаў адправіцца ў Драгічын, бо даўнавата там быў. Да таго ж меркаваў, што ў трэці дзень, пасля свайго грэшнага развітання з постам, наведаю тамашнюю царкву, у якую мне яшчэ не прыходзілася заглянуць.

І так, падаграваючы сябе думкай пра традыцыйнае ў нас трохдзённае калляднае святкаванне, падаўся я ў найбольш бадай гістарычную мясцовасць нашага ваяводства. У Сямятычах засцігла мяне нечаканасць — на тамашняй аўтобуснай плошчы заняў месца каркас новага збудавання. Тое збудаванне задумана прысвяціць набіраючаму штораз больш культу гандлю. Нейкі мужчына з некаторай ноткай задзіўлення зачапіў мяне ўвагай, што цяпер так хутка ўсё будуецца — менавіта той храм гандлю пачалі ўзводзіць у жніўні-верасні. Такі прагрэс, цяпер людское маханне лапатай у руках замянілі машыны маханнем аграмаднымі каўшамі. І будаўнічы сезон у выніку кліматычных змен расцягнуўся на цэлы год...

У Драгічыне першыя свае крокі скіраваў я ў бок тамашняй царквы. У горадзе пуставата, надвор'е туманнае. Перад царквою стаялі тры ці чатыры легкавушкі, побач якіх стаяла столькі ж мужчын. Дзверы царквы былі закрыты, ніякага намёку на прысутнасць там вернікаў не было бачна. Націснуў я на царкоўную клямку і дзверы паддаліся. За імі чарговыя дзверы, з металічных планак — як у шматлікіх касцёлах, дзе вернікі маюць магчымасць памаліцца ў прытворы, не заходзячы ўсярэдзіну. У сярэдзіне храма не было нікога бачна. Няхмела націснуў я чарговую клямку і чарговыя дзверы паддаліся. Увайшоў я ў, здавалася б, пустую царкву. Але за дыяканскімі дзвярыма стаяў мужчына, спаглядаў у мой бок, але не пацікавіўся заблукаўшай у храм маёй асобай. Я разглянуўся па царкве. Інтэр'ер упрыгожвалі святочныя ёлкі, роспіс сцен падыхаў дастаенствам, адчувалася велічнасць храма. Але... На першым плане стаяў накрыты дываном катафалк... Падаўся я бліжэй алтара. Насустрач мне выйшаў староста, у якога я даведаўся, што ў тамашняй царкве правіцца толькі ў першыя два дні Каляд. Ну а катафалк быў нарыхтаваны для чаканага пакойніка. Спытаў я, ці магу зрабіць здымак інтэр'ера. У адказ староста паведаміў, што такі дазвол можа даць настаяцель. Паказаўся настаяцель і пацікавіўся, дзеля чаго хачу зрабіць здымак.

— Для „Нівы”, — кажу.

— Калі для „Нівы”, то калі ласка. Адно толькі каб было гэта прыстойна.

Шчоўкнуў я здымак і падаўся навонкі. Падаўся я ў бок кафедральнага касцёла, мяркуючы, што можа і туды магчыма будзе заглянуць. Не. Затое перад гэтым жа касцёлам з'явіўся цяпер палявы алтар, за якім высокі крыж з характэрнай для драгічынскага экуменізму вертыкальнай трэшчынай. Тая трэшчына быццам мае сімвалізаваць раскол на ўсходнюю частку хрысціянства і заходнюю. Аднак за сваю двухтысячагадовую гісторыю ў хрысціянстве нарабілася столькі трэшчын, як, мабыць, маршчын у Мафусаіла. Як у кожным набіраючым гадоў быце. Аднак маршчыны не так красамоўныя як адна напралётная трэшчына... А з гэтымі трэшчынамі, мабыць, справа маецца так жа, як і з легендарнай вавілонскай вежай, з якой цікаўныя разявакі хацелі заглянуць, што ў Царстве Нябесным адбываецца. Ну, і ў выніку нарабілася ўсяляких моў, дыялектаў, гаворак... Гэтак жа сама, мабыць, і з тэалагічнымі спробамі заглянуць не ў сваё царства — нарабілася ўсяляких тэалагічных трэшчын і маршчын...





Драгічынскі рынак

Вярнуўся я на галоўную плошчу горада, прабуючы заглянуць у былы францысканскі касцёл; але і тут атрымалася асечка. Ну то хаця на яго задворкі, дзе на адмысловым валуне табліца з інфармацыяй пра каранацыю князя Данілы Раманавіча. У невялічкай манаграфіі Драгічына Крыстына Мойсан-Яблонская напісала: „Podlaskie miasteczko, oplecione niebieską wstążką Bugu, zostało wcześniej niż Kraków i Warszawa wyróżnione przez historię koronacyjnym przywilejem, jednocześnie stając się w roku 1253 świadkiem zawarcia pierwszej unii Kościoła rzymskiego ze wschodnim chrześcijaństwem. Halicko-wołyński książę Daniło (Daniel) Romanowicz został koronowany na króla Rusi przez arcybiskupa Opizona — legata papieża Innocentego IV — oraz krakowskiego biskupa Prandotę. Zanim królewska korona spoczęła na skroniach Daniela, książę wyznał wiarę katolicką. Drohiczyńska unia religijna zapewniała nowemu pomazańcowi i jego poddanym zachowanie liturgii wschodniej. Uroczystość odbyła się w Soborze Najświętszej Marii Panny w obecności licznych książąt ruskich i bojarów kijowskich oraz polskiego rycerstwa”.

Драгічынскі Прачысценскі сабор стаяў на месцы, дзе зараз знаходзіцца постфранцысканскі касцёл. Дарэчы, у сярэднявечны ў Драгічыне было шмат цэркваў, аднак з ходам гадоў іх лік меншаў не толькі ў выніку канфесійных канверсій, але і ў выніку стыхійных бедстваў, асабліва паводак, заліваючых „рускую”, левабярэжную старану горада. Правабярэжны, „ляцкі” бок горада высіцца вакол абрыву, званага Замкавай гарой. Было ў Драгічыне шмат храмаў; зноў цытата са згаданага даведніка: „W ciągu wieków po obu brzegach rzeki znajdowały się liczne cerkwie. Po prawej stronie, pomiędzy Górą Zamkową a obecną cerkwią św. Mikołaja Cudotwórcy, stała cerkiew Narodzenia Najświętszej Maryi Panny. Wspomina o niej dokument z początku XVI stulecia. Na wschodzie miasta zbudowano cerkiew Zmartwychwstania (Woskresieńską). Istniała także cerkiew Świętej Trójcy na Kramszczewskiej Górze, uposażona przez litewskiego księcia Aleksandra. Inna prawosławna świątynia św. Mikołaja spłonęła podczas pożaru miasta 27 maja 1805 roku. (...) Na „Ruskiej Stronie” wzniesiono w XIII wieku cerkiew Spasa (Przemienienia Pańskiego). Obok niej znajdowała się cerkiew św. Eliasza. Na lewym brzegu istniała także cerkiew św. Jerzego i kaplica św. Paraskowii...” І, магчыма, пра сталіцу гістарычнага Падляшскага ваяводства і пісаў Ігнацы Красіцкі ў сваёй „Манахамахіі”: „W mieście, którego nazwiska nie powiem,/ Nic to albowiem do rzeczy nie przyda,/ W mieście, ponieważ zbiór pustek tak zowiem,/ W godnem siedlisku i chłopa, i Żyda,/ W mieście (gród, ziemstwo trzymało albowiem/ Stare zamczysko, pustoty ohyda)/ Były trzy karczmy, bram cztery ułomki,/ Klasztorów dziewięć i gdzieniegdzie domki”.

Над горадам дамінуюць сакральныя збудаванні. Але быў час, калі планавалася іншая дамінацыя. У 1960-х гадах быў апрацаваны план прасторавага добраўпарадкавання Драгічына; іншых мястэчак таксама. План той прадбачваў у Драгічыне некалькі гарадскіх кварталаў для рознай забудовы, у тым ліку і квартал пад шматэтажныя блокі: „Projektanci wyraźnie podzielili miasteczko na kilka części. W centrum, na obszarze sześciu hektarów, powstawać mogą w przyszłości tylko budynki wysokie, liczące po kilka pięter (projektanci nie precyzują ile)...” — пісала ў 1963 годзе „Gazeta Białostocka”. Толькі той квартал ахопліваў участкі, дзе драгічынскія сяляне планавалі будаваць свае сялянскія гаспадарчыя збудаванні, са стадоламі і хлявамі, бо 70 адсоткаў тагачаснага драгічынскага насельніцтва складалі земляробы. І з тых высакамоўных планаў нічога не атрымалася...

Гарадская ратуша сціпленькая, толькі два паверхі. Перад будынкам сціпла прыбраная елка, а вакол яе два неонавыя апакаліптычныя анёлы вяшчаючыя трубамі надыход Страшнага суда. Такая біблейская карцінка здаецца быць адпаведнай гораду, які калісь мог весела натхніць біскупа Ігнацы Красіцкага...

Заглянуў я і ў тамашнюю бібліятэку, цікавячыся нейкай салiднай манаграфіяй багатага гістарычным мінулым горада. Ветлівыя бібліятэкаркі толькі развялі рукі — яшчэ ніхто не прыдумаў напісаць такой манаграфіі — ёсць толькі невялічкія буклеты пра Драгічын і наваколле. Значыць — перад драгічынскай гістарыяграфіяй багатая будучыня, так як за драгічынскай гісторыяй багатая мінуўшчына...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960
03